Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

№ 7. 15 кастрычніка 1929 год.



# ВЕСТКІ

ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (бальш.) БЕЛАРУСІ.

ВЫХОДЗЯЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, ЦК КП(б)Б. Тэлефон № 585.

Падпіска прымаецца ва ўсіх паштовых установах БССР.

УМОВЫ ПАДПІСКІ: на 6 мес. . 1 р. 25 к.
на 3 мес. . 65 к.





## Аб чым сыгналізуе чыстка і перапіс вясковых парторганізацый.

Праведзеная нядаўна чыстка і праверка вясковых парторганізацый, а таксама і перапіс пераважнай часткі вясковых камуністаў, сыгналізуе цэлы шэраг недахопаў у сацыяльным складзе вясковых партыйных організацый і слабых месц у партпрацы на сяле. Акрамя значнага процанту выключаных з шэрагу партыі вясковых камуністаў (ад 15—17) за наяўнае скрыўленьне парт. лініі, разлажэньне, п'янства і інш. партыйныя праступкі, праверка і чыстка нашых вясковых парторганізацый выявіла многа значных недахопаў, якія адбіваюцца на ўсёй рабоце вясковых парторганізацый.

Раней усяго неабходна адзначыць слабы рост вясковых парторганізацый за лік батракоў, с.-г. рабочых і беднякоў калгасьнікаў. Гэты рост, за выключэньнем некаторых асобных організацый, зьяўляецца нездавальняючым як з боку колькаснага, так і якаснага. Слабы рост нельга тлумачыць ні чым іншым, як слаба разгорнутай масавай і палітычнай работай сярод батрацтва, с.-гаспадарчых рабочых і калгасьнікаў. Некаторыя сельскія ячэйкі адарваны ад мас, саўгасы і калгасы па сёньняшні дзень яшчэ ня сталі апорным пунктам партыйнай і масавай палітычнай работы. Замест таго, каб уцягваць у шэрагі партыі найбольш актыўных і перадавых батракоў, с.-гасп. рабочых і калгасьнікаў-беднякоў, якія актыўна дапамагаюць партыі ў справе сацы

ялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, актыўных арганізатараў і пабарнікаў за каляктывізацыю, некаторыя нашы сельскія парт‘ячэйкі прымаюць у партыю бяз хтрогага адбору. Буйнейшым недасопам зьяўляецца таксама нізкі палітычны і культурны ўзровень значнай часткі вясковых камуністаў, якія часта не разьбіраюцца ў самых элемэнтарных пытаньнях палітыкі нашае партыі. Праўда, большасьць вясковых камуністаў прайшлі тыя ці іншыя формы партасьветы (палітшколы, школы-перасоўкі, гурткі і інш.), але вынікі, як відаць, вельмі невялікія.

Адсюль неабходна зрабіць вынік, што якасьць работы палітшколы зусім нездавальняючая, што якасьць прапагандысцкага кадру, кіруючага палітшколамі, таксама не асабліва высокая. А паміж іншым работа ў вёсцы ў сучасны момант больш складаная і патрабуе ад кожнага камуніста яснага і чоткага разуменьня партыйнай лініі, цьвёрдай і ідэалёгічнай устойлівасьці і высокага палітычнага ўзроўню. Таму і неабходна ў бягучы зімовы пэрыяд рашуча палепшыць якасьць усёй партыйнай вучобы, а таксама кінуць у вёску групу найбольш моцных і тэарэтычна добра падрыхтаваных прапагандыстаў для кіраўніцтва вясковай сеткаю партыйнай асьветы.

Праверка і чыстка вясковых ячэяк і перапіс вясковых камуністаў выявілі некаторую групу камуністаў, якія акулачыліся, працівадзейнічаюць каляктывізацыі і часта змыкаюцца з кулацкімі элементамі вёскі, загубілі камуністычны твар і няміnуча якія пераpаджаюцца ідэёва.

Чыстка партыі вызваліла нашы шэрагі ад гэткіх элемэнтаў. Побач з гэтым неабходна прызнаць, што ня ўсе камуністы вёскі актыўна працуюць над справай каляктывізацыі, у калгасах пакуль што яшчэ зусім нязначная камуністычная праслойка, пераважная частка вясковых камуністаў сядзіць на індывідуальнай гаспадарцы. Такое становішча зусім нецярпіма ў далейшым, калі справа каляктывізацыі ўжо стала справай шырокіх мас беднаты і сераднякоў, калі мы можам ужо ставіць у рэальнай плоскасьці пытаньне аб усеагульнай каляктывізацыі цэлых раёнаў.

Пры такім становішчы вясковыя парторганізацыі павінны з усёй рашучасьцю ставіць перад кожным індывідуальнікам-камуністам пытаньне аб абавязковым увахаджаньні ў калгас. Неабходна самым тэрміновым парадкам ліквідаваць адставаньне некаторых нашых вясковых парторганізацый ад вялікага руху мас у бок каляктывізацыі. Парторганізацыі і кожны асобны камуніст абавязан ісьці на чале гэтага масавага руху, арганізоўваць і накіроўваць ініцыятыву мас, інакш атрымаецца разрыў паміж той ці іншай вясковай ячэйкай і бядняцка-серадняцкай і батрацкай масай. А гэта прадстаўляе вялізарнейшую небясьпеку.

Пытаньне аб кіруючых кадрах па усіх лініях работы, партыйнай, савецкай, гаспадарчай, прафэсыянальнай, якое зьяўляецца актуальным пытаньнем для ўсёй КПБ, з асаблівою вастратою стаіць на вёсцы. Там кіруючыя кадры зусім нязначныя і не адпавядаюць у некаторай сваёй частцы задачам бягучага пэрыяду. Склад сакратароў нашых вясковых ячэяк яшчэ малады па партстажу, востра адчуваецца недахоп арганізатараў і кіраўнікоў камуністаў у калгасах і саўгасах. Усё яшчэ застаецца ня высокім процант камуністаў, якія працуюць на розных вучастках культурнай работы ў вёсцы (настаўнікаў, ліквідатараў няпісьменнасьці, аграномаў, урачоў і г. д.), не гаворачы ўжо аб тым, што падрыхтоўка культурных кадраў і пралетарскіх спэцыялістых ідзе яшчэ недастатковым тэмпам, значная частка гэтых кадраў асядае ў гарадох і не пападае ў вёску. А вёска ў іх больш

за ўсё мае патрэбу. Вось таму побач з цэлым шэрагам мерапрыемстваў, якія праводзяцца ўжо, і накіраваны ў бок значнага пасіленьня тэмпу падрыхтоўкі пралетарскіх і камуністычных кадраў спэцыялістаў, неабходна ўзяць рашучы курс на тое, каб пераважная частка гэтых кадраў пападала ў вёску.

Масавая работа вясковых партыйных організацый у большасьці выпадкаў адстае ад задач рэканструкцыйнага пэрыяду. Як і раней, нашы вясковыя партыйныя організацыі сядзяць на кампаніях, кожнадзённай-жа і сыстэматычнай работы няма. Праўда, у гэтай справе неабходна дапамагчы вясковым організацыям, бо ў шэрагу выпадкаў яны проста ня ведаюць, як падыйсьці да перабудовы масавай работы, вядуць усё па „старынцы“, па шаблёну бяз вучоту тых сацыяльных працэсаў, якія адбываюцца ў вёсцы, тых вялізарных зрухаў, якія адбыліся ў культурна-палітычным узроўні асноўнай масы сялянства. Ня *усе нашы вясковыя партыйныя організацыі ў сваёй масавай палітычнай рабоце ўмеюць правільна ставіць пытаньні ў клясавым разрэзе*. Гэты асноўныя недахопы. Я не магу закрануць у кароткім артыкуле цалага шэрагу організацыйных недахопаў, якія маюць буйнейшае значэньне. У рабоце вясковых організацый наглядаецца, як правіла, раскіданасьць, няўменьне ўхапіцца за асноўнае зьвяно. Няма дастатковай сур'ёзнасьці і правільнага падыходу да пытаньняў разьмеркаваньня і правільнай растаноўкі сіл, што пры недахопе кадраў яшчэ болей ускладняе становішча рэчаў.

ЦК КПБ цяпер падрыхтоўвае пытаньне аб задачах вясковых парторганізацый, аб мерапрыёмствах па ўзмацненьню апошніх у сувязі з вынікамі чысткі і перапісі партыйных вясковых організацый. У рашэньнях, якія будуць вынесены па гэтаму пытаньню, павінны знайсьці поўны адбітак як усе паказаныя пытаньні, так і многа іншых, якія не змаглі быць закрануты ў артыкуле. Зусім бясспрэчна, што самі вясковыя нашы парторганізацыі ня справяцца з разьвязаньнем шэрагу задач, як, напрыклад, узмацненьне кіруючых кадраў, організацыі і падняцьце якасьці партвучобы і г. д. Тут патрабуецца вялізарная дапамога з боку гарадзкіх партыйных організацый, а ў першую чаргу з боку пролетарскіх партыйных організацый і ўсіх кіруючых парторганаў. Гэта дапамога павінна ісьці па лініі перамяшчэньня шэрагу моцных рабочых—камуністых на розныя вучасткі вясковай работы, па лініі перамяшчэньня ў вёску групы моцных партыйных прапагандыстых, па лініі ўзмоцненага тэмпу падрыхтоўкі кадраў пралетарскіх спэцыялістаў і організатараў калгасаў і культурнай работы; вялізарная дапамога павінна быць аказана нашым вясковым парторганізацыям па лініі рабочага шэфства над вёскай. Дапамога з боку ўсіх парторганізацый, профсаюзаў і шырокай рабочай грамадзкасьці павінна быць забясьпечана. Гэта не азначае, што вясковыя нашы організацыі павінны сядзець „злажыўшы рукі“.

У першую чаргу, галоўная цяжкасьць па выкараненьню шэрагу недахопаў, значнаму палепшаньню якасьці партыйнай і масавай палітычнай работы сярод батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх сялянскіх мас, па рашучай перабудове ўсей сваей работы, ляжа на нашы вясковыя парторганізацыі. Гэта—райкомы і с-ячэйкі цалкам і кожны асобна камуніст, які працуе на вёсцы паасобку, павінны цьвёрда запамятаць.

**В. Гантман.**

# Галоўная ўвага на ўзмацненьне работы сельячэйкі.

Сучасны пэрыяд, пэрыяд рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, буйны рост соцыялістычнага сэктару вёскі, характэрызуецца ўзмацненьнем пазыцыі партыі ў вёсцы, узрастаньнем гаспадарча-палітычнай ролі беднаты, замацаваньнем бядняцка-серадняцкага блеку і ўсё большым уздымам актыўнасьці і ўдзелу бядняцка-серадняцкіх мас ва ўсіх мерапрыёмствах, якія праводзяцца партыяй у вёсцы, па соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі.

Аднак, мы не павінны забываць, што працэс соцыялістычнай перабудовы вёскі праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, што кожны ўдар па капіталістычных элемэнтах вёскі (кулак—нэпман) выклікае шалёнае супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў, якія ў галіне сваёй тактыкі скарыстоўваюць слабыя вучасткі ў рабоце с/гас. каапэрацыі, а момантамі і ячэек, для забарыкадаваньня сябе ад разгорнутага наступу партыі і пралетарыяту на капіталістычныя элемэнты вёскі.

Праведзеная чыстка і праверка вясковых арганізацый (па Гомельскай акрузе) дае права казаць, што ня ўсе райкомы, і асабліва ячэйкі зварочвалі ўвагу на правадзімыя працэсы клясавай барацьбы ў вёсцы і велі барацьбу за правядзеньне чоткай клясавай лініі ў сваёй рабоце на вёсцы. Чыстка вясковых ячэек паказала на колькі нездавальняючы соц. склад асобных ячэяк. Слабасьць іх работы служыла перашкодай правядзеньню ў жыцьцё пастаноў партыі па лініі наступу па кулака, чыстка паказала на колькі глыбока ў шэрагі яч. укараніліся конкрэтныя насіцелі правага ўхілу і прымірэнцтва. Пралязаючы момантамі клясава чужды элемэнт у ячэйку ня толькі не атрымліваў сваечасовага адпору ад яч. і паасобных, камуністых вёскі, а наадварот паралізаваў работу яч. і ў цэлым шэрагу выпадкаў прыводзіў яч. да разлажэньня.

Чыстка выявіла шэраг абураючых праяўленьняў правага ўхілу ў практычнай рабоце, факты скрыўленьня ўнутрыпартыйнай дэмократыі, а таксама асобныя хваробныя зьявішчы, на якія райкомы і яч. не зварачалі ўвагі. Кіраўніцтва з боку райкому і ячэяк савецкімі і каапэрацыйнымі ўстановамі яшчэ патрабуе значнага палепшаньня. Няма яшчэ дастатнай адказнасьці з боку камуністаў, якія працуюць у непартыйных арганізацыях, за выкананьне даваемых ім дырэктыў і няма яшчэ дастатнай праверкі выкананьня даваемых партыйных дырэктыў з боку Р. К. і яч.

Кіраўніцтва ячэйкамі з боку Р.К. да гэтага часу праводзіцца па старынцы, замест жывое дапамогі, заслухоўваецца справаздача бюро яч. на бюро Р. К., а ў лепшым выпадку садаклад абсьледаваццеля, прымаецца рэзалюцыя і на гэтым канец. Жывое дапамогі ў рабоце яч. з боку Р. К. мы сустракаем яшчэ зусім мала і таму нашы сельскія ячэйкі ў сваёй большасьці кідаюцца з аднэй работы на другую, распыляюць сілы, перагружаюць сяброў яч. і ў выніку ні адна работа пачатая ячэйкай не даводзіцца да канца. Шэраг важнейшых дырэктыў партыі ў шэрагу яч. застаюцца не праведзенымі ў жыцьцё (работа з батрацтвам, работа з беспартыйным бядняцка-серадняцкім актывам, рост партыі і інш.) і гэта не таму, што ячэйкі не жадаюць іх праводзіць, а ў большасьці сваёй таму, што яч. ня ўмеюць арганізаваць вакол правядзеньня іх шырокі беспартыйны батрацка-бядняцкі і серадняцкі актыў вёскі.

Выезды сяброў бюро Р. К. ў яч. ў сваёй большасьці насілі не плянавы характар. Ёсьць шмат выпадкаў, калі выяжджаючыя работнікі, прыяжджаюць у яч. ня з мэтай дапамагчы арганізаваць работу яч., а

з мэтаю накруціць „хваста“. Ад такіх паездак у ячэйкі трэба адмовіцца і трэба палажыць ў аснову, каб сябры бюро Р. К. пабывалі ў кожнай яч. не менш 3—5 дзён у 2 м-цы і праводзілі там канкрэтную работу па арганізацыйнаму замацаваньню работы яч.

Адчыненая чыстка з удзелам шырокіх працоўных мас сялянства дала аздараўляючае ўзьдзейнічаньне на тых, хто меў за сабою тыя або іншыя грашкі, паказала ім і усім другім, куды вядуць самыя малыя грашкі, патрабавала ад кожнага прыкладнасьці, ня толькі ў сваёй рабоце, але і ў сваім быту. Чыстка моцна ўдарыла па тых благадушных настроях, якія дзе-ні-дзе пускалі карэні праваўхілістых і ў выніку значна ачысьціла арганізацыі ад людзей, якія перашкаджалі ў правядзеньні на практыцы гэнэральнай лініі партыі.

Па сельскіх арганізацыях (Гомельскай акругі) вычышчана 16,83% сяброў і кандыдатаў партыі, з іх: за скрыўленьне клясавай лініі, варожы элемэнт і сувязь з кулаком 42%, праваўхілістых у практычнай працы 16,74%, фармальнае і пасыўнае прабыцьцё ў партыі 14,48%, за п'янства, разлажэньне, растраты інш. 26,78%. Наогул, у выніку, чыстка і праверка шэрагаў партыі на вёсцы дала штуршок у бок яшчэ большага давер'я батракоў, і сераднякоў да партыі, ўцягнула ў партыю, праўда, нязначныя, але лепшыя кадры вёскі сельскагаспадарчых рабочых, батракоў і беднякоў і яшчэ больш зблізіла асноўныя масы вёскі з грунтоўнымі зьвеньнямі партыі з ячэйкай.

Усё гэта патрабуе ад нас самай сур'ёзнай увагі справе палепшаньня работы сельскай, калгаснай і саўгаснай ячэйкі. Галоўная ўвага ў рабоце райкомаў павінна быць накіравана на ўзмацненьне арганізацыйнай і партыйна-выхаваўчай работы ячэйкі. Неабходна прылажыць усе сілы к таму, каб узброіць нізавую партыйную масу астрыём *ленінізма* і дабіцца, каб ячэйкі ў сапраўднасьці стаялі на чале кіраўніцтва працай па сацыялістычнай перабудове вёскі. Райкомы павінны заразжа накіраваць увагу на палепшаньне работы ячэйкі і ўнядрэньня ў практыку кіраўніцтва яч. мэтады жывой дапамогі, замест фармальнага заслухоўваньня справаздач.

**К. Мазур.**

# У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КП(б)Б.

## Аб выніках перавыбараў саветаў у 1928-1929 годзе.

*(Пастанова ЦК КП(б)Б ад 19/VII 1929 г.).*

Заслухаўшы даклад аб выніках перавыбарчай кампаніі саветаў у 1928/29 годзе, Бюро ЦК КП(б)Б адзначае наступнае:

1. Праходзіўшая ва ўмовах разгортваючагася сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі перавыбарчая кампанія саветаў яскрава выявіла абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне. Кулацка-нэпманскія пласты разгарнулі ў час перавыбарчай кампаніі ўзмоцненую арганізацыйна-агітацыйную работу супроць палітыкі савецкае улады і ў некаторых мяйсцох, пераважна ў вёсцы, нават станавіліся на шлях простага тэрору супроць лепшых савецкіх работнікаў і прадстаўнікоў савецкай грамадзкасьці. Адначасова перавыбарчая кампанія выявіла і стымулiравала вялізарны рост актыўнасьці і палітычнай сьвядомасьці пролетарыяту і ўсіх працоўных горэду і вёскі, павялічыўшы згуртаванасьць іх радоў вакол партыі і саветаў пад лёзунгамі барацьбы за мір і ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны, за шпаркі тэмп індустрыялізацыі краіны, за сацыялістычную перабудову і ўздым сельскай гаспадаркі.

2. Кіруючы ўдзел партарганізацый і ўдзел у гэтую перавыбарчую кампанію значна ўзрос, дзякуючы масавай мабілізацыі і пасылцы на мясцы партыйных сіл з цэнтру, акруг і раёнаў; паўней і лепш чым у мінулыя кампаніі праведзенай рабоце па арганізацыі і згуртаваньню вакол лініі партыі беднаты, батрацтва, працоўных жанчын усіх нацыянальнасьцяй; паглыбленьню працы па

падрыхтоўцы кандыдатур для выбару і вылучэньня ў савецкія органы; дэцэнтралізацыі справы распрацоўкі наказаў, якая дала магчымасьць улічыць цалком мясцовыя асаблівасьці і запатрабаваньні выбаршчыкаў і зрабіць наказы ў пераважнай большасьці канкрэтнымі плянамі ажыцьцяўленьня гэнэральнай лініі партыі ва ўмовах кожнага раёну і савету; павялічэньню на 50% колькасьці выбарчых вучасткаў, асабліва нацыянальных. Аднак, поруч з гэтым пры падрыхтоўцы і правядзеньні кандыдатур наглядаліся ў асобных выпадках хвасьцізм ячэек і няцьвёрдасьць у адстойваньні рэкамэндуемых кандыдатур, а таксама асобныя выпадкі парушэньня партыйнае дысцыпліны і нават блёкаваньня з кулацка-заможніцкімі элемэнтамі паасобных разлажыўшыхся і акулачыўшыхся партыйцаў і камсамольцаў. У шэрагу выпадкаў наглядаліся факты нядбайных адносін мясцовых арганізацый да справы падрыхтоўкі кандыдатур, у прыватнасьці жаночых, у выніку чаго мелі месца правалы рэкамэндаваных кандыдатаў.

3. Больш актыўны і непасрэдны ўдзел у кампаніі перавыбараў саветаў прымалі прафсаюзы, Чырвоная Армія і друк, якія зьявіліся праваднікамі шэрагу новых мерапрыемстваў па арганізацыі самадзейнасьці працоўных у выглядзе мітынгаў-пераклічак, узаемных выклікаў і спаборніцтваў паміж прафсаюзамі, прадпрыемствамі, установамі і вайсковымі часткамі на лепшае правядзеньне перавыбараў у гарадох і заслугоўваючай асаблівай увагі новай формы кіраўнічай сувязі рабочае клясы з асноўнай масай сялянства, як пасылка на вёску рабочых брыгад, праз якія накіравана было каля 1000 рабочых. Таксама пашырыўся ў гэтую кампанію ўдзел ведамсьцьвенных установаў, якія ў працягу справаздачнай кампаніі знаёмілі выбаршчыкаў з сваёю дзейнасьцю шляхам пастаноўкі справаздач.

4. Шырокая пастаноўка справаздач раённых і акруговых органаў улады і ўраду перад працоўнымі дапамагала завастрэньню ўвагі і канцэнтрацыі актыўнасьці на галоўных чарговых задачах социялістычнага будаўніцтва і побач з палепшанай у параўнаньні з мінулай кампаніяй справаздачнасьцю нізавых саветаў і пашыранай справаздачнасьцю ведамсьцьвенных установаў і радавых членаў саветаў, забясьпечыла сапраўдны агляд у кампанію ўсяго нашага социялістычнага будаўніцтва шырачэйшымі працоўнымі масамі.

5. Праведзеная ва ўмовах далейшага разьвіцьця савецкай дэмакратыі і самакрытыкі перавыбарчая кампанія дапамагла выяўленьню недахопаў у працы савецкага апарату і дзелавых прапаноў для яго палепшаньня ў шматлікіх рэзалюцыях справаздачных сходаў, выступленьнях і дадатках выбаршчыкаў да наказаў. Канкрэтным вынікам рэагаваньня працоўных на бязьдзейнасьць і нездавальняючую працу сваіх дэпутатаў зьявілася адкліканьне іх, як у працэсе штодзённай работы, так і ў справаздачную кампанію да пачатку перавыбараў.

6. Паўней, чым у мінулыя кампаніі, былі выяўлены і пазбаўлены выбарчых правоў усе непрацоўныя і варожыя пралетарскай дыктатуры элемэнты, пры чым увогуле процант пазбаўленых выбарчага права ў стасунку да ўсяго насельніцтва старэй 18 год павялічыўся толькі нязначна і адпавядае социяльнаму складу насельніцтва БССР, што сьведчыць аб правільнасьці ў асноўным праведзенай у гэтым напрамку работы. Разам з гэтым адзначаюцца з боку некаторых саветаў і выканкомаў выпадкі недастаткова ўважлівых адносін да справы пазбаўленьня выбарчых правоў як у сэнсе няправільнага пазбаўленьня, так і непазбаўленьня тых асоб, якія згодна інструкцыі аб выбарах у саветы павінны быць пазбаўлены выбарчых правоў.

7. Вялізарнейшую актыўнасьць у гэтую перавыбарчую кампанію праявілі гарадзкі пролетарыят, батрацтва, бедната і серадняк, якія цалком падтрымлівалі лінію партыі. У запатрабаваньнях гэтых груп адзначала неабходнасьць узмацненьня барацьбы з бюрократызмам і скрыўленьнем клясавае лініі ў савецкім апараце, палепшаньня социяльна-культурнага абслугоўваньня працоўных і даваўшы рашучы адпор імкненьням варожых элемэнтаў супроцьпаставіць лініі партыі і савецкай улады сваю палітычную лінію.

Пры перавыбарах саветаў агульны процант яўкі на перавыбары, у параўнаньні з мінулай кампаніяй, павялічыўся ад 46,3% да 58,7% па сельскіх саветах, ад 49,6% да 63,5% па местачковых і ад 62,4% да 71,1% па гарадзкіх саветах. Пры гэтым яўка батракоў і сельгасрабочых па сельскіх мясцовасьцях дасягае 70%, а яўка рабочых у гарадох—79,2%.

8. Асабліва значна павялічылася ў гэтую кампанію актыўнасьць працоўных жанчын, у прыватнасьці па с/с, дзе яўка дасягнула 42,4% супроць 26,4% у мінулыя перавыбары. Таксама значна павялічылася колькасьць працоўных жанчын у агульным і кіруючым складзе саветаў (па сельскіх саветах—з 7,2 да 19,7% і ў складзе старшынь с/с—з 0,8 да 7,0%; па местачковых саветах—з 12,3 да 26,1%; па гарсаветах акруговых—з 17,1 да 25,3% і неакруговых—з 12,7 да 22,3%).

Гэтыя дасягненьні абумоўлены выключнай увагай справе актывізацыі працоўных жанчын у гэтую перавыбарчую кампанію і радам спэцыяльных мерапрыемстваў, як паасобныя жаночыя сходы і сходы камбінаваныя з падзелам тэрміну яўкі выбаршчыкаў аднае сям'і на дзьве чаргі.

9. Насельніцтва нацыянальных меншасьцяў прымала актыўны удзел у справаздачна-перавыбарчай кампаніі нараўне з караным насельніцтвам данае мясцовасьці. Адзначаецца большая яўка на справаздачныя і перавыбарчыя сходы па шэрагу нацыянальных саветаў (мясцамі да 80 процантаў і больш).

У большай меры, чым у мінулую кампанію, выявілася групаваньне нацыянальных меншасьцяў па клясавым, а не па нацыянальным прызнаку.

Працоўная жанчына нацыянальных меншасьцяў таксама больш актыўна ўдзельнічала ў перавыбарах (яўка мясцамі да 75%). Як правіла, паміж карэнным насельніцтвам і нацыянальнымі меншасьцямі ў перавыбарчую кампанію былі добрыя ўзаемаадносіны, хаця ў паасобных мясцох яшчэ меліся шавіністычныя настроі, праявы антысэмітызму і нацыянальнай замкнутасьці.

Як практычнае ажыцьцяўленьне нацыянальнай палітыкі адзначаецца арганізацыя новых нацыянальных саветаў у пэрыяд справаздачна-перавыбарчай кампаніі (два польскіх, адзін украінскі, адзін яўрэйскі і адзін літоўскі).

10. Вясковая інтэлігенцыя, асабліва настаўніцтва ў пераважнай сваёй частцы актыўна дапамагала рабоце па правядзеньню кампаніі і выступала сумесна з бядняцка-серадняцкай часткай выбаршчыкаў. Аднак, некаторая частка настаўніцтва і асабліва іншых катэгорый вясковай інтэлігенцыі, хаця і галасавала за прапановы партыі беднаты, у клясавай барацьбе пры перавыбарах засталася ў кампаніі пасыўнай, баючыся пакрыўдзіць заможных і кулака, абмежаваўшыся фармальным удзелам. У асобных выпадках прадстаўнікі вясковай інтэлігенцыі выступалі за адно з кулацка-заможніцкімі групіроўкамі і часам нават станавіліся на чале апошніх.

11. У выніку пасьпяхова праведзенай падрыхтоўчай да перавыбараў работы і справаздачна-перавыбарчай кампаніі маюцца наступныя дасягненьні:

а) яшчэ больш узрасла кіруючая роля рабочае клясы і камуністычнае партыі, а таксама вясковай беднаты ў саветах: процант рабочых і батракоў павялічыўся з 1,9% да 6,2% у сельскіх, з 15,4 да 23,2% у мястэчковых, з 26,1 да 31% у неакруговых гарадзкіх і з 28,8 да 34 проц. у акруговых гарадзкіх саветах; процант беднаты (аслабаненых ад падатку) узрос з 22,8 да 37,5% па сельскіх і з 37,8 да 38,6 проц. па мястэчковых саветах; павялічыўся лік выбраных камуністых і камсамольцаў ад 4.372 да 7.397 па сельскіх і ад 267 да 571 па мястэчковых саветах і процант камуністых і камсамольцаў ад 57,6 да 60,5% па акруговых і ад 36,1 да 40,3 процантаў па неакруговых гарсаветах;

б) поруч з гэтым маецца далейшае ўзмацненьне саюзу рабочае клясы з асноўнай масай сялянства, гэта значыць з беднатою і серадняком пад кіраўніцтвам пролетарыяту, хаця ў некаторых мясцох, галоўным чынам у выніку недаацэнкі ролі серадняцтва і няправільнага ў дачыненьні да яго падыходу наглядаліся хістаньні часткі сераднякоў у бок падтрыманьня заможнікаў і кулака;

в) уцягненьне новых кадраў працоўных у склад нізавых саветаў і на кіруючыя пасады ў апошніх (выбраных першы раз членамі сельсаветаў 70,5 проц. і старшынямі—34,9 проц.);

г) дастаткова забясьпечана ў саветах прадстаўніцтва працоўных усіх нацыянальнасьцяй БССР з павялічэньнем іх абсолютнага ліку у складзе сельскіх і мястэчковых саветаў;

д) большае ўцягненьне працоўных на сталую работу ў саветах, шляхам пашырэньня, як агульнага складу сельскіх і мястэчковых саветаў, так і складу прэзыдыумаў гэтых саветаў і раённых органаў улады.

12. Побач з дасягненьнямі, якія былі ў пэрыяд перавыбарчай кампаніі, неабходна адзначыць недахопы, галоўныя з якіх наступныя:

а) наяўнасьць фактаў недавучоту некаторымі вясковымі партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі абвастрэньня клясавай барацьбы, недастатковай увагі справе арганізацыі беднаты і асабліва ўвязцы працы—з беднатою з задачамі ўзмацненьня бядняцка-серадняцкага блёку пад кіраўніцтвам рабочае клясы; зусім недастатковае выкананьне дырэктывы аб правядзеньні сходаў бядняцка-серадняцкага актыву.

У некаторых мясцох наглядалася скрыўленьне партыйнай лініі ў дачыненьні серадняка, што выражалася ў незапрашэньні серадняцкага актыву і маламоцных серадняkoў на сходы беднаты і нават недапушчаньні іх на апошнія, у паасобных выпадках недастатковага намячэньня і правядзеньня серадняцкіх кандыдатур у саветы.

Разам з гэтым маюцца факты, калі частка беднаты ў выніку недастатковай з ёю работы была мала актыўна ў барацьбе з кулацтвам і яго прыхільнікамі, займаючы абарончае становішча;

б) слаба былі выкананы дырэктывы аб увязцы перавыбарчай кампаніі са справаю агляду груп беднаты;

в) конкурс на лепшую сэкцыю гарадзкога савету, лепшы сельскі і мястэчковы савет з яго камісіямі, які павінен быў быць шчыльна увязаны з справаздачна-перавыбарчай кампаніяй, на справе не знайшоў дастатковага адбітку ў гэтай кампаніі і разгарнуўся з значным спазьненьнем ужо пасьля справаздач саветаў, чым у вялікай меры была страчана яго вартасьць і зьменшаны магчымасьці сапраўднага і ўсебаковага выяўленьня праз конкурс дасягненьняў і хібаў у рабоце саветаў;

г) недастатковы ўдзел у справаздачна-перавыбарчай кампаніі КСУ і кооперацыі і слабы ўдзел у кампаніі з боку іншых грамадзкіх арганізацый;

д) недастатковае завастрэньне значнай часткі нізавых саветаў увагі выбаршчыкаў на галоўнейшых чарговых задачах соцыялістычнага будаўніцтва—індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі і ўздыму сельскай гаспадаркі, як вынік іх недастатковай работы ў гэтай галіне і слабае асьвятленьне часткай саветаў ступені выкананьня наказаў выбаршчыкаў.

13. На падставе адзначанага Бюро ЦК КП(б)Б лічыць неабходным Акругкомам, Райкомам і фракцыям саветаў і выканаўчых камітэтаў улічыць і зьнішчыць усе наглядаўшыяся ў гэтую кампанію недахопы і для замацаваньня станоўчых вынікаў перавыбарчай кампаніі і далейшага ажыўленьня працы перавыбарных саветаў, прапануе:

а) парторганам і фракцыям саветаў зрабіць усе захады да найлепшага практычнага ажыцьцяўленьня гаспадарчых і культурных задач пяцігадовага пляну (на гадавыя пляны) у асаблівасьці ажыцьцяўленьня сельсаветамі задач колектывізацыі і коопэраваньня сельскай гаспадаркі, зрабіўшы гэтыя задачы на бліжэйшы пэрыяд стрыжнем усяе дзейнасьці саветаў, вакол якога павінна разгортвацца іх масавая работа;

б) як канкрэтную форму політычнага выхаваньня і ўцягненьня саветамі працоўных мас у соцыялістычнае будаўніцтва, безадкладна разгарнуць дзелавую працу камісіі і сэкцыі саветаў, забясьпечыўшы іх належным кіраўніцтвам і ўвязаўшы іх працу з работай саветаў. Пашырыць вопыт організацыі паказаных Бюро ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 8-га чэрвеня 1928 г.: „аб масавай рабоце саветаў і ажыцьцяўленьні савецкай дэмакратыі“ патрэбных па мясцовых умовах камісій ва ўсіх больш-менш буйных залюдненых пунктах, якія не зьяўляюцца цэнтрамі сельсаветаў;

в) маючы на ўвазе, што бюджэты зьяўляюцца неабходнейшай матар'яльнай базай разгортваньня гаспадарча-культурнай дзейнасьці масавай работы саветаў, даручыць фракцыі Прэзыдыуму ЦВК ужыць неабходныя мерапрыёмствы да рашучага павялічэньня ў чарговым бюджэтным годзе ліку сельскіх саветаў з самастойнымі бюджэтамі;

г) наладзіць больш сыстэматычную работу з беднатою;

д) замацаваць дасягнутыя ў гэтую перавыбарчую кампанію посьпехі па ўцягненьню ў саветы працоўных жанчын, забясьпечыўшы іх выхаваньне на практычнай рабоце і павялічэньне кваліфікацыі праз сыстэму адпаведных спэцыяльных мерапрыемстваў, як стварэньне курсаў, правядзеньне сходаў, нарад, канфэрэнцый і г. д. Яшчэ больш пашырыць уцягненьне працоўных жанчын у работу саветаў праз сэкцыі, камісіі дэлегацкія жаночыя сходы. Поўнасьцю правесьці ва ўсіх саветах і падпарадкаваных ім установах прымацаваньне дэлегатак-практыкантак, забясьпечыць ім падрыхтоўчае выхаваньне, сапраўдна выкарыстоўваючы іх на практычнай рабоце саветаў;

е) улічваючы значнае пашырэньне складу нізавых савецкіх органаў і аднаўленьне яго ў вялікай меры за кошт выбраных у першы раз (70,5 проц.) і ўскладненьне задач, якія стаяць перад саветамі ў зьвязку з ажыцьцяўленьнем пяцігадовага пляну гаспадарчага і культурнага соцыялістычнага будаўніцтва, у максімальнай меры выкарыстаць увесь інструктарскі апарат Акрвыканкомаў і стварыць раённы інструктаж для інструктаваньня і наладжваньня работы ў новых саветах;

ж) арганізацыйна замацаваць і выхаваць уцягнутыя ў выніку апошняй кампаніі новыя кадры працоўных, асабліва батрацтва, жанчын нацменшасьцяй, не пакідаючы ніводнага члена ці кандыдата савету без практычнай работы і без дапамогі ў рабоце з боку больш падрыхтаваных савецкіх працаўнікоў; організаваць у гэтых мэтах цэнтральныя і мясцовыя (акруговыя і раённыя) курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы нізавых савецкіх работнікаў.

Прымаючы пад увагу выкліканае агульным пашырэньнем складу сельсаветаў павялічэньне проценту няпісьменных у апошніх з 1,9 да 4,5 проц., абавязаць фракцыі саветаў і выканаўчых камітэтаў безадкладна ў хутчэйшы тэрмін ліквідаваць няпісьменнасьць членаў саветаў;

з) лічучы ў асноўным апраўдаўшай сябе пасылку рабочых брыгад на вёску, як новую форму ўзмацненьня саюзу рабочае клясы з асноўнай масай сялянства і пролетарскага ўплыву на апошняе, практыкаваць гэткую надалей пры правядзеньні асноўных кампаній у вёсцы. Адначасова наогул узмацніць працу ўсіх профсаюзаў на вёсцы, асабліва саюзаў сельгаслесрабочых у нарасьветы;

і) рашуча і сыстэматычна ачышчаць савецкі апарат ад пралезшых клясава-чуждых і абюракратыўшыхся элемэнтаў.

Пры правядзеньні чысткі савецкага апарату накіраваць на гэту справу ўсю ўвагу саветаў і лічыць неабходным прыцягненьне праз саветы да чысткі самых шырокіх мас працоўных гораду і вёскі.

Пашырыць практыку адкліканьня неадпавядаючых дэпутатаў па ініцыятыве самых выбаршчыкаў у працягу штодзённай работы саветаў.

Пашырыць і сыстэматычна працягваць вылучэньне рабочых, работніц, батракоў і бядняцка-серадняцкага актыву ўсіх нацыянальнасьцяй на кіруючую работу ў савецкі апарат у парадку ўцягненьня і замены вычышчаных і адклікаемых, арганізаваўшы безадкладна справу выхаваньня вылучэнцаў і падняцьця іх кваліфікацыі ў мэтадах далейшага прасоўваньня на кіруючую работу, шляхам правядзеньня нарад, курсаў і завочнага навучаньня і г. д.;

к) узмацніць кіруючую ролю фракцыі саветаў і іх адказнасьць за ажыцьцяўленьне саветамі правільнай клясавай лініі і актыўны удзел камуністых у практычнай рабоце саветаў, іх сэкцый і камісій, прыняўшы рашучыя крокі ў напрамку забясьпечаньня рэгулярнага наведваньня камуністымі пасяджэньняў саветаў, сэкцый і камісій апошніх;

л) фракцыям выканаўчых камітэтаў і саветаў забясьпечыць поўнае зьліквідаваньне у працэсе праверачнае работы ўсіх дапушчаных пры складаньні сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права, памылак. У далейшым наладзіць гэтую справу як сыстэматычную галіну работы саветаў і выканкомаў;

м) пашырыць выдавецкую дзейнасьць цэнтральных і мясцовых органаў улады па пытаньнях савецкага будаўніцтва, забясьпечыўшы нізавы савецкі актыў неабходнай літаратурай, для чаго ў першую чаргу палепшыць выданьне дадатку „Саветы Беларусі“.

# Аб выніках кантрактацыі і чарговых задачах.

*(Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 2-IX—29 г.).*

Адзначыць, што, ня гледзячы на дасягнутые некаторые посьпехі ў кантрактацыі:

а) Кантрактацыя пасеваў увясну 1928-29 г. супроць 1927-28 г. павялічылася, як па колькасьці кантрактуемых культур (у 1927-28 г. 8 культур, у 1928-29 г.—13 культур), гэтак і па плошчы закантрактаваных культур (у 1927-28 г. усяго закантрактавана на плошчы 43.380 гк., а ў 1928-29 г.—80.445 гк).

б) Кантрактацыя 1928-29 г. праходзіла ў больш плянавым і арганізаваным парадку і набыла больш вытворчы характар (асабліва па культуры ільну) чымся гэта было ў 1927-28 г. і разам з тым значна павялічыўся ўдзел групавой кантрактацыі і кантрактацыі ў колектыўных гаспадарках (у 1927-28 г. закантрактавана ў калгасах менш 1 проц. ад усяе кантрактацыі, а ў гэтым годзе (1928-29 г.)—14,5 проц., групавая кантрактацыя займала ў 1927-28 г. каля 3 проц., а ў 1928-29 г. каля 68 проц., а па ільну (Віцебск і Полацк) амаль усе 100 проц.

в) Некалькі палепшыўся социяльны склад кантрактаўшчыкаў у бок павялічэньня ўдзельнай вагі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Аднак, кантрактацыя ва ўмовах БССР не заняла яшчэ належнага мейсца ў шэрагу мерапрыемстваў па рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і ўзмацненьня ролі плянавага прадуктаабмену паміж горадам і вёскай і што ў правядзеньні самой кантрактацыі ёсьць буйныя недахопы, як-та:

1. Надта слаба скарыстоўваюцца сродкі як грашовыя, гэтак і матар'яльныя для правядзеньня вытворчых мерапрыемстваў у кантрактуемых гаспадарках з прычыны недастатковай увязкі кантрактацыі з вытворчымі мерапрыёмствамі, поўнай адсутнасьці праверкі выкананьня кантрактантамі абавязкаў аб палепшаньні вядзеньня гаспадаркі і адсутнасьці агранамічнага абслугоўваньня кантрактантаў з боку кантрактуемых органаў, дзякуючы чаму да апошняга часу кантрактацыя амаль зусім не садзейнічала вытворчаму коопэраваньню, колектывізацыі і ўнядрэньню агрыкультурных мерапрыемстваў.

2. Мэханічныя адносіны пры вызначэньні заданьняў кантрактацыі для паасобных раёнаў, бяз вучоту разьвіцьця асобных культур, што прыводзіць да невыкананьня паасобнымі раёнамі заданьняў з аднаго боку, і, праўмяншэньне заданьняў для другіх раёнаў з другога. Несваечасовая рассылка дагавароў, частая зьмена заданьняў, адсутнасьць шырока пастаўленай растлумачальнай працы пры правядзеньні кантрактацыі і г. д.

3. Лічыць недапушчальным неспагнаньне да апошняга часу закантрактаванага збожжа (увясну 1928 г.) альбо грошы. Процант выкананьня разам з зваротам грошай складае па ільнавалакну 57 проц., па ільнанасеньню 73 проц., па насеньні ільна даўгунца 57%, па ячменю 68 проц., па бульбе 68 проц., па лубіну 19 проц., па сэрадэлі 32 проц. і па канюшыне 28 проц., пры чым як збожжа, гэтак і грошы не спагнаны нават з заможных кантрактантаў.

Адзначыць, што калгасы таксама не зьяўляюцца яшчэ прыкладнымі ў справе сваечасовага выкананьня дагавароў.

4. Нездавальняюча выканана заданьне па кантрактацыі пасеваў у пляне бягучага году і слаба разгорнута праца па кантрактацыі азімых пасеваў зараз.

5. Слаба пастаўлена справа са здавальненьнем кантрактантаў сродкамі вытворчасьці (асабліва ўгнаеньнем). Неналаджанасьць прэміраваньня здатчыкаў кантрактантаў таварамі, з прычыны недагаворанасьці паміж спажывецкай і с. г. каапэрацыяй.

6. ЦК адзначае, што з боку партыйных організацый, асабліва РК і ячэяк КП(б)Б зусім мала зварочвалася да гэтае пары ўвагі справе правядзеньня кантрактацыі на мяйсцох. Шэраг організацый не зразумелі яшчэ ролі кантрактацыі як аднаго з галоўнейшых мерапрыемстваў, садзейнічаючага калектывізацыі і вытворчаму коопэраваньню.

Ставячы важнейшай задачай пры далейшым правядзеньні кантрактацыі,—узмацненьне як вытворчага зьместу і ролі ў справе організацыі плянавага прадуктаабмену паміж горадам і вёскай, а таксама паскарэньня тэмпу социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, ЦК лічыць неабходным:

1. Пры складаньні плянаў кантрактацыі на будучы год прадугледзіць поўны ахоп кантрактацыяй усёй таварнай часткі продукцыі калгасаў насенных таварыстваў і іншых прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў і пашырэньне групавой кантрактацыі з ахопам цэлых пасёлкаў і вёсак. У дагаворах неабходна прадугледзіць правядзеньне кантрактантамі шэрагу мерапрыемстваў па ўздыму і тэхнічнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, яго вытворчаму коопэраваньню і калектывізацыі, а таксама дапамогу з боку дзяржаўных і коопэрацыйных організацый па агратэхнічнаму абслугоўваньню сялянскіх гаспадарак, вытворчаму крэдытаваньню і г. д.

2. Пры заключэньні дагавораў з цэлымі пасёлкамі і вёскамі дамагацца ўнясеньня ў дагавор абавязацельстваў усіх падпісаўшых дагавор сялянскіх гаспадарак уступленьня сябрамі ў спажывецкую і сельскагаспадарчую коопэрацыю.

3. Узяць напрамак на паступовае скарачэньне грашовага авансаваньня закантрактаваных гаспадарак, пераходзячы на безавансавую кантрактацыю і замену грашовых авансаў організаваным здавальненьнем сялянства сродкамі вытворчасьці і спажываньня. Грашовыя авансы павінны накіроўвацца на вытворчую дапамогу бадняцкім і маламоцным гаспадаркам.

Пачынаючы з вясны будучага году ўзяць напрамак на пашырэньне доўгатэрміновай

кантрактацыі і на адначасовае правядзеньне кантрактацыі яравых і азімых пасеваў.

4. Выходзячы з галоўнай задачы правядзеньня кантрактацыі—вытворчы характар яе і садзейнічаньне коопэраваньню і колектывізацыі, разам з рашучым палепшаньнем забесьпячэньня кантрактантаў сродкамі вытворчасьці і агранамічным абслугоўваньнем, неабходна дамагацца ўдзелу насельніцтва сродкамі (паявыя ўзносы, мэтавыя ўклады, авансы на набыцьцё сродкаў вытворчасьці і г. д.) у правядзеньні мерапрыемстваў па тэхнічнай і соцыяльнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, прадугледжваемай пры заключэньні дагавароў.

Бельсельсаюзу і НКЗ у месячны тэрмін распрацаваць практычныя мерапрыемствы па забесьпячэньню поўным абслугоўваньнем кантрактантаў агранамічнымі сіламі як па лініі коопэрацыйных органаў, так і зямельных.

БСС і НК Гандлю ў двухмесячны тэрмін распрацаваць новы проэкт тыпавага дагавору, у якім павінны быць адбіты ўсе задачы кантрактацыі, накіраваныя на большае садзейнічаньне колектывізацыі і вытворчаму коопэраваньню, максымальна спрасьціўшы існуючы парадак і сыстэму авансаваньня.

5. Даручыць СНК выдаць закон прадугледжваючы абавязковасьць выкананьня пастаноў агульных бядняцка-серадняцкіх сходаў аб правядзеньні кантрактацыі нязгоднай меншасьцю на правядзеньні яе.

6. БСС і НКГ у двухмесячны тэрмін распрацаваць пытаньне аб дадатковых даплатах здатчыкам закантрактаванага збожжа ў параўнаньні з загатоўчымі лемітнымі цэнамі, захаваўшы адначасова ўсе раней існаваўшыя палёгкі і ільготы.

7. БСС у сувязі з надыходам часу выкананьня дагавароў па здачы закантрактаванай продукцыі прыняць усе захады, забясьпечваючыя сваечасовае і поўнае выкананьне дагавораў, адначасова зьліквідаваўшы да 1/XI гэтага году запазычанасьць па кантрактацыі вясны 1928 г.

8 НКГандлю у тыднёвы тэрмін распрацаваць і даць жорсткія паказаньні мейсцам аб парадку прэміраваньня здатчыкоў-кантрактантаў хлебам і спажывецкімі таварамі, не дапускаючы меўшых мейсца ненармальных зьявішч у мінулым годзе.

9. НКГандлю і БСС пры складаньні пляну і правядзеньня кантрактацыі прадугледзіць больш поўнае забесьпячэньне праз кантрактацыю сыравінных патрэб мяйсцовай прамысловасьці (бульба, ячмень, ільнанасеньне).

10. АК і РК КП(б)Б у большай меры неабходна кіраваць і садзейнічаць пасьпяховаму правядзеньню кантрактацыі, дзеля чаго, шырока праводзячы масавую растлумачальную працу неабходна ўвесьці ў сыстэму правядзеньне сходаў беднаты для абгаварэньня дагавораў па кантрактацыі, умоў і парадку правядзеньня яе, а таксама па пытаньням выкананьня дагавораў у устаноўленыя тэрміны. Абгаварэньне дагавораў павінна праводзіцца таксама на вытворчых с. г. нарадах, сходах аграўпаўнаважаных і г. д.

11. Парт. і коопэрацыйным організацыям забясьпечыць правядзеньне строгай клясавай лініі ўва ўсёй рабоце па кантрактацыі, вядучы рашучую барацьбу. як з пакрыўленьнямі клясавай лініі, гэтак і з супраціўленьнем кулацтва.

## Аб выкананьні дырэктыў ЦК КП(б)Б па абароне інтарэсаў батрацтва.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 7-IX—29 г.)*

1. Сакратарыят ЦК КП(б)Б канстатуе, што пры наліччы росту колькаснага ахопу батрацтва прац. дагаварамі, галоўны недахоп у працы сярод батрацтва—невыкананьне прац. дагавораў і амаль поўная адсутнасьць праверкі іх выкананьня,—застаецца і зараз.

Асабліва кепска абстаіць справа з аховай працы батрачак, маецца наяўнасьць вялікай колькасьці выпадкаў эксплёатацыі батрачак кулакамі ў форме сямейных адносін.

Амаль што поўнасьцю адсутнічае праца па ахове малалетніх ад эксплёатацыі ў кулацкіх гаспадарках.

Ня выканана дырэктыва ЦК аб поўным ахопе працдагаварамі батракоў, працуючых у кулацкіх гаспадарках. Маюцца выпадкі прымяненьня „часовых правілаў" у кулацкіх гаспадарках і наяўнасьць кабальных умоў працы ў кулацкіх гаспадарках, што сьведчыць аб тым, што яшчэ на мясцох ня ўзята рашучая лінія барацьбы з кулацкім эксплёататарскім імкненьнем.

2. Прычынамі такога стану з батрацтвам зьяўляюцца: недастатковая актыўнасьць саміх батрацкіх мас: само батрацтва слаба прыцягнута да справы заключэньня і праверкі выкананьня прац, умоў, што тлумачыцца слабай работай партыйных, профэсыянальных і камсамольскіх організацый па ўздыму актыўнасьці батрацтва; недастатковасьць практычнай дапамогі, а месцамі і поўная адсутнасьць яе, сельрабачкомам з боку РК КП(б)Б і ЛКСМБ, парт'ячэяк і сельсаветаў на мясцох.

Нявыканана дырэктыва аб набліжэньні органаў соцстраху і мэдыцынскіх устаноў да абслугоўваньня батрацтва.

Нявыканана дырэктыва аб дапамозе саюзу с. г. і л. рабочых іншых саюзаў і асабліва з боку працуючых у вёсцы (Працасьветы, сав. і гандлёвых служачых, Медсанпрацы).

Сакратарыят ЦК КП(б)Б асабліва падкрэсьлівае бязьдзейнасьць шэфтаварыстав у працы сярод батрацтва.

3. Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе ўсім АК КП(б)Б, фракцыі ЦСПСБ і ЦК ЛКСМБ мобілізаваць увагу партыйных, камсамольскіх, профэсыянальных і савецкіх організацый да абавязковага выкананьня дадзеных

дырэктыў ЦК аб працы сярод батрацтва. Не паслабляючы тэмпу работы па ахопу батрацтва працдагаварамі і сац. страхаваньнем, цэнтрам увагі *ў галіне аховы батрацтва надалей павінна стаць праверка выкананьня прац. дагавароў, усімі мерамі дабіваючыся іх выкананьня.*

Указаць фракцыі ЦП Саюзу С. Г. і Л. рабочых на ўсё яшчэ недастатковую працу па організацыі нізавога прафактыва, недастатковую практычную дапамогу яму з боку акруговых аддзяленьняў і ЦП Саюзу. Неабходна надалей сканцэнтраваць галоўную ўвагу саюзных організацый на актывізацыю самога батрацтва, дзеля абароны сваіх правоў і ўдзелу ў рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ва ўсім сацыялістычным будаўніцтве.

4. Указаць фракцыі Саюзу СГЛР, НКПрацы, НКАсьветы і ЦК ЛКСМБ на зусім недапушчальныя адносіны да справы абароны малалетніх батракоў. Прапанаваць вышэй паказаным органам (усклаўшы адказнасьць на НКПрацы) у тыднёвы тэрмін падрыхтаваць проэкт закону аб абароне малалетніх. Фракцыі СНК у 2-тыднёвы тэрмін выдаць гэты закон.

Праз 2 месяцы заслухаць у ЦК даклад аб выкананьні закону па абароне малалетніх.

5. Фракцыі ЦСПСБ у працягу аднаго месяца праверыць работу саюзаў, асабліва працуючых на вёсцы ў галіне іх дапамогі саюзу СГЛР па працы сярод батракоў.

5. НКПрацы, Галоўсацстраху і НКАсьветы праверыць па сваёй пэрыфэрыі выкананьне дырэктыў ЦК аб працы сярод батракоў і паведаміць Васковаму аддзелу ЦК у 2-месячны тэрмін аб выніках праверкі.

7. Лічыць неабходным скарыстоўваць працаўнікоў, якія мобілізуюцца для правядзеньня палітычных кампаній (хлебазагатовак і інш.), і ўсіх мясцовых працаўнікоў для організацыі батракоў навакол гэтых кампаній і праверкі работы з батрацтвам.

8. Фракцыі ЦВК даць паказаньне сельсаветам аб большай увазе справе рэгістрацыі і нагляду за выкананьнем працдагавароў, зжываючы існуючую практыку мэханічнай рэгістрацыі дагавароў з боку сельсаветаў.

9. Саюзу С. Г. і Л. рабочых зьвярнуць асаблівую ўвагу на ахову працы батрачак, больш уцягнуць у гэтую працу дэлегацкія сходы праз сэкцыі батрачак. У плян практычных работ дэлегатак унесьці пытаньне аб аб ахове працы батрачак. Аддзелу работніц ЦК даць паказаньні аб удзелу дэлегацкіх сходаў у працы з батрацтвам.

10. Даручыць шэфтаварыствам, фракцыі ЦСПСБ распрацаваць практычныя паказаньні месцам аб увязцы працы шэфтаварыства на вёсцы з работай профсаюзаў сярод батрацтва.

## Аб распаўсюджаньні сельска-гаспадарчых ведаў праз вясковую пачатковую школу.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 17-IX—29 г.).*

1. Задачы комуністычнае партыі і савецкае ўлады—колектывізацыя сельскае гаспадаркі і падвышэньне яе ўраджайнасьці павінны знайсьці цэнтральнае месца ва ўсёй працы вясковай пачатковай школы, якая павінна стаць правадніком гэтых задач сярод батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі.

2. Летняя работа па сельска-гаспадарчаму навучаньню павінна быць адзіным процэсам адукацыйнай і выхаваўчай працы школы ў зімовы пэрыяд.

3. Даючы дзецям і падросткам агранамічныя веды, школа павінна арганізаваць работу па ахове працы дзяцей і падросткаў ад празьмернай эксплёатацыі ў сельскай гаспадарцы, як па найму, так і ў сваёй сям'і.

4. Вясковая школа павінна пабудаваць плян сваіх заняткаў такім чынам, каб даць вучням ня толькі тэорытычныя веды, але і практычныя навыкі ў галіне сельскае гаспадаркі.

Для поўнага ажыцьцяўленьня ўсіх мерапрыёмстваў у напрамку выкананьня вясковай пачатковай школай задач па колектывізацыі і агранамізацыі сельскае гаспадаркі, Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе:

1. Наркамасьветы організаваць у кожнай акрузе, па прыкладу бягучага году, спэцыяльныя 6-тыднёвыя практычныя курсы па сельскай гаспадарцы для настаўнікаў вясковых 4-х гадовых школ, каб на працягу 5 год падрыхтаваць на гэтых курсах 4.800 настаўнікаў (67,9%) па 960 ч. у год.

2. Наркамзему, фракцыям АВК і РВК і мясцовым органам Наркамасьветы ўключыць у абавязак вучастковых і калгасных аграномаў, аграномаў школ сялянскай моладзі і сельска-гаспадарчых профшкол:

а) складаньне, разам з настаўнікамі, вытворчых плянаў апрацоўкі школьных зямельных вучасткаў і кіраўніцтва гэтай апрацоўкай;

б) правядзеньне кожны год 3-4 (у залежнасьці з рознымі сэзонамі сельска-гаспадарчых работ) кароткатэрміновых (ня больш 5 дзён) інструктыўных практыкумаў для вясковых настаўнікаў (па 15 чал. на практыкум) без перашкоды для вучэбных заняткаў у школе;

в) вытворчыя пляны апрацоўкі школьных зямельных вучасткаў павінны вайсьці ў агульныя пляны працы школы; з мэтай популярызацыі гэтых плянаў і распаўсюджаньня агранамічных ведаў сярод ваколічнага насельніцтва ставіць іх на абгаварэньне бацькоўскіх сходаў і сходаў бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі.

3. Наркамасьветы ў месячны тэрмін падрыхтаваць і ўнесьці на абгаварэньне Савету Народных Камісараў пытаньне аб забясьпечаньні школ зямельнымі вучасткамі і ўпарадкаваньні маючыхся, вызначыўшы патрэб-

ную плошчу зямельнага вучастку ў адпаведнасьці з пэдагагічн. і інш. запатрабаваньнямі.

4. Фракцыям АВК і РВК:

а) абавязаць сельскія саветы правесьці агарожу школьнай сядзібы, саду, гароду ў тэрмін ня больш 2 год.;

б) забараніць здачу школьных вучасткаў у арэнду і абавязаць сельсаветы, КСУ і інш. грамадзкія організацыі дапамагаць школам у апрацоўцы зямельных вучасткаў (успашка і інш. цяжкія для дзяцей палявыя работы.

5. Наркамасьветы і Наркамзему распрацаваць пытаньне аб мэтавым скарыстаньні школьных зямельных вучасткаў.

6. Савету Народных Камісараў прадугледзець па мясцоваму бюджэту на працягу пяці год па 62.240 р. у год на правядзеньне 6-тыднёвых сельска-гаспадарчых курсаў у акругах, вызначаных пунктам 1-м гэтай пастановы, і асыгнаваньні на абсталяваньне вясковай школы, неабходнае для яе агранамізацыі.

7. Устанавіць спэцыяльны фонд для прэміраваньня тых настаўнікаў, якія адначасова з добрай пастаноўкай навучальнай справы ў школе, дасягнуць узорнай пастаноўкі сельскагаспадарчага працоўнага навучаньня дзяцей.

8. Наркамасьветы распрацаваць палажэньне аб скарыстаньні гэтага фонду і ўнесьці на зацьверджаньне СНК.

9. Наркамасьветы, ЦК ЛКСМБ і ЦБ юных піонэраў увесьці ў практыку сваёй працы спаборніцтвы, пераклічкі, дзіцячыя канфэрэнцыі, паходы супроць шкоднікаў саду, гароду і поля і г. д.

10. Наркамасьветы і фракцыі ЦП саюзу Працасьветы рэгуляваць адпачынкі настаўнікаў 2, 3 і 4-камплектовых вясковых школ такім чынам, каб забясьпечыць з боку настаўніка сталае кіраўніцтва працай на школьным зямельным вучастку.

11. Наркамзему, Белкоопсаюзу і КСУ абавязаць зямельныя і коопэрацыйныя органы адпускаць для школьных вучасткаў насеньне, штучнае ўгнаеньне, сродкі барацьбы са шкоднікамі і хваробамі культурных расьлін.

## Аб рабоце профсаюзаў сярод рабочых палякаў.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 25-IX—29 г.).*

Заслухаўшы даклад фракцыі ЦСПСБ аб рабоце сярод рабочых палякаў, Сакратарыят ЦК КП(б)Б адзначае, што з боку значнай часткі профорганізацый Беларусі назіраецца недаацэнка і неразуменьне політычнай важнасьці работы сярод рабочых палякаў, асабліва па саюзам чыгуначнікаў і с.-г. лес. рабочых, у выніку чаго вылучэньне рабочых палякаў праводзілася ў большасьці выпадкаў самацёкам, зусім слаба праводзіцца культмасавая работа на польскай мове, слаба праводзіцца інтэрнацыянальнае выхаваньне, слаба мабілізавана ўвага рабочых на барацьбе з нацыяналістычнымі і шовіністычнымі выпадкамі сярод рабочых палякаў, выпадкамі нац. абмежаванасьці, антысэмітызму (камунальнікі—Менск, завод „Кастрычнік"—Бабруйск), з выпадкамі укрыцьця сваей нацыянальнай прылежнасьці (саюз СГЛР і чыгуначнікаў).

І Ня гледзячы на значны ўплыў клерыкалізму на асобныя адсталыя групы рабочых і асабліва іх сем'і (нявыхад на работу на вялікдзень 39% рабочых палякаў на Домбалі), профорганізацыі не разгарнулі сыстэматычнай антырэлігійнай работы, а ў праводзімай антырэлігійнай рабоце ня вучытваюцца асаблівасьці работы каталіцкага касьцёлу (правядзеньне агульных антыпасхальных сходаў і г. д.).

Адначасова Сакратарыят ЦК КП(б)Б адзначае, што політычны настрой пераважнай большасьці рабочых палякаў зьяўляецца станоўчым (удзел у кампаніях, актыўнасьць на сходах, удзел у выбарах дэлегатаў на Варшаўскі зьезд) і параўнальна здавальняючым зьяўляецца ўдзел рабочых палякаў ва ўсіх відах агульна-профсаюзнай і культ.-масавай работы.

Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе ў далейшым фракцыі ЦСПСБ і АК і РК КП(б)Б, улічваючы політычную важнасьць нацработы ва ўмовах Беларусі, неадкладна разгарнуць культ. масавую работу сярод рабочых палякаў на нац. мове ў прыватнасьці:

1. Вылучыць кадр агітатараў дзеля правядзеньня гутарак, чытак газэт на польмове ў цэху, чырвоным кутку, агульных памяшканьнях, у вёсках, дзе жывуць рабочыя палякі.

2. Абавязаць рэдакцыі насьценных, сьветавых газэт зьмяшчаць артыкулы аб рабоце сярод рабочых палякаў на ўсіх мовах і па пытаньням агульнай работы, на польмове.

3. Абавязаць клюбы, чырвоныя куткі ва ўсёй рабоце ўвесьці абслугоўваньне рабочых палякаў і іх сямей на роднай мове.

4. Дзеля палегчаньня ўцягненьня рабочых палякаў, яшчэ ня ўцягнутых у гурткі і школы, асабліва політычныя, утварыць гэткія на польмове, гурткі па ліквідацыі няпісьменнасьці, як для рабочых, так і іх утрыманцаў, па вывучэньні становішча ў Польшчы, групы пры яч. „Бязбожнік", драматычных, харавых і інш.

5. Профорганізацыям і органам Наркамасьветы павялічыць і сыстэматычна папаўняць колькасьць польск. літаратуры ў профсаюзных бібліотэках, асабліва на тых прадпрыёмствах, дзе маецца значная колькасьць рабочых палякаў, папулярызуючы польскую пролетарскую літаратуру праз громкія чыткі мастацкай літаратуры, рэкомэндацыю кніжок, выстаўкі кніжных навінак, утварэньне кнігапошаства, організацыю колектыўнай падпіскі на польскія часопісі і газэты.

II. Профорганізацыям і РК узмацніць растлумачальную работу па пытаньням нацполітыкі і інтэрнацыянальнага выхаваньня, дзеля чаго:

а) Выкрываць клясавую сутнасьць лёзунгаў адзінага нац. фронту, і фашыскую нацполітыку Польшчы на прыкладах разгрому пілсудчыкамі рабочых організацый, нацыянальнага ўціску ў Польшчы, падрыхтоўкі да нападу на Савецкі Саюз.

б) Папулярызаваць дасягненьні савецкае ўлады ў галіне абслугоўваньня рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас палякаў: работы нацсаветаў, колектывізацыі, павялічэньня ліку рабочых.

в) Асаблівую ўвагу аддаць барацьбе з антысэмітызмам, шовінізмам і нац. абмежаванасьцю, выкрываючы ўсе праявы вылазак клясавага ворага, іх клясавую сутнасьць і організуючы ўсіх рабочых да рашучага адпору, дзеля чаго паставіць шэраг дакладаў, гутарак, скарыстоўваючы канкрэтныя выпадкі і газэтны матар'ял; організоўваць час ад часу інтэрнацыянальныя вечары, выступленьні пролетарскіх пісьменьнікаў.

III. Прапанаваць профорганізацыям і шэф. таварыствам узмацніць сувязь рабочых з польскай вёскай, прагледзеўшы прымацав. фабрык і заводаў маючых польскіх рабочых у бок большай сувязі іх з польскімі і зьмешанымі вёскамі, дапамагаючы далейшаму разьвязваньню клясавай барацьбы, растлумачваючы сутнасьць лёзунгу адзінага нац. фронту, разгортваючы колектывізацыю і вытворчае коопэраваньне беднаты.

IV. Фракцыі ЦСПСБ і СБ узмацніць антырэлігійную работу сярод рабочых палякаў і іх сямей, як шляхам утварэньня яч. „бязбожнікаў", большага забясьпечаньня антырэлігійнай літаратурай, пасіленьня культ.-масавай работы сярод рабочых і асабліва іх сямей, так і шляхам выкрыцьця контр-рэволюцыйнай сутнасьці каталіцкага касьцёлу і ксяндзоў, як агэнтаў польскага фашызму.

V. Наладзіць вучот актыву з рабочых палякаў і павялічыць вылучэньне асабліва па лініі саюзу СГЛР і чыгуначнікаў, як найбольш адсталых вучасткаў работы, маючых асабліва важнае значэньне ў сучасны момант.

VI. Фракцыі ЦК МОПР і мопраўскім організацыям на мясцох узмацніць работу сярод рабочых палякаў, перапіску з рабочымі закардонымі організацыямі, дапамогу політвязьням Польшчы, Заходняй Беларусі, Украіны.

VII. Адзначаючы слабую работу комсамольскіх організацый сярод польскай рабочай моладзі, прапанаваць профорганізацыям і ЦК ЛКСМБ узмацніць уцягненьне польскай рабочай моладзі ў ва ўсе віды культурна-масавай выхаваўчай работы, уцягненьне ў гурткі (політычныя, профсаюзныя, вытворчыя, мастацкія), політкампаніі, брыгады па соц.-спаборніцтву і г. д.

VIII. Фр. ЦСПСБ і органам Наркамасьветы узмацніць масавую работу навокал польскіх школ: большую растлумачальную работу сярод бацькоў вучняў, большую ўвязку работы школ з прадпрыёмствамі і рабочымі клюбамі.

IX. Прапанаваць АК КП(б)Б, фракцыі саюзу Працасьветы ўзмацніць выхаваўчую работу сярод польскай працоўнай інтэлігэнцыі, уцягваючы лепшую частку яе ў правядзеньне практычных мерапрыемстваў партыі і ўлады, як па рабоце сярод польнасельніцтва, так і ў агульную палітасьветную работу, завастрыць увагу на барацьбу з нацыяналізмам, шовінізмам, нацабмяжованасьцю, адначасова выкрываючы сапраўдны політычны твар варожых колаў польскай інтэлігэнцыі і максімальна павялічваючы колы польскай працоўнай інтэлігэнцыі за кошт рабочых, дзяцей рабочых, батракоў і сялян беднякоў шляхам больш рашучага ўцягненьня іх у рабфакі, курсы, ВНУ, і тэхнікумы.

## Аб узмацненьні тэмпу хлебазагатовак.

*(Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 20-IX—29 г.).*

Адзначыць, што на мясцох да гэтага часу яшчэ ня ўсюды даведзены да паасобнай вёскі пляны хлебазагатовак па культурах, а там, дзе яны ўжо даведзены да паселішча—яшчэ невыстарчальна шырока разгорнута растлумачальная і агітацыйная работа, з прычыны чаго да гэтага часу хлебазагатоўчая кампанія не дае патрэбных вынікаў у сэнсе разьвіцьця патрэбнага тэмпу паступленьня хлеба ад індывідуальных гаспадарак.

Канстатаваць, што да гэтага часу яшчэ ня ўсюды ўжыты на практыцы дырэктывы аб прад'яўленьні цьвёрдых заданьняў кулацка-заможным гаспадаркам на продаж ім лішкаў хлеба асноўным загатоўшчыкам і неарганізаваны агляд за выкананьнем імі гэтых заданьняў у бліжэйшы час.

Адзначыць, што ў адносінах колгасаў, ня гледзячы на своечасова даныя дырэктывы, ня прыняты патрэбныя захады да паскарэньня абмалоту збожжа і здачы колгасамі сваіх хлебных лішкаў, асабліва па жыце, Белсельсаюзу без усялякіх затрыманьняў, а таксама і тое, што ў галіне збору закантрактаванага збожжа ня прыняты належныя меры да паскарэньня здачы збожжа кантрактоўшчыкам да тэрміну (да I-X 29 г., для чаго своечасова была ўстаноўлена спэцыяльная даплата за датэрміновую здачу).

У мэтах забесьпячэньня поўнага выкананьня пляну хлебазагатовак у вызначаны тэрмін ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Прапанаваць усім акругкомам згуртаваць усю увагу на пытаньні аб хлебазагатоўках і прыняць рашучыя меры, што гарантуюць поўнае выкананьне ў вызначаны тэрмін пляну хлебазагатовак і ў прыватнасьці тэрмінова правесьці ў жыцьцё наступныя захады:

а) Не пазьней 25-IX скончыць дасканалае высьвятленьне ўсіх таварных хлебных лішкаў па кожным калгасе і забясьпечыць безадкладную здачу калгасамі гэтых лішкаў, асабліва па жыце, Белсельсаюзу без уселякіх ухіленьняў і зацяжак. Да колгасаў, якія затрымліваюць здачу лішкаў хлебу, ужыць самых жорсткія меры ўзьдзейнічаньня шляхам зачыненьня крэдытаў, спыненьня водпуску с.-г. машын і інш., а таксама прыцягваць да судовай адказнасьці нягодных кіраўнікоў колгасаў, якія зрываюць плян ураду.

б) Безадкладна разгарнуць шырокую работу па організацыі хутчэйшай добраахвотнай здачы контрактоўшчыкамі да тэрміну ўсяго закантрактаванага ў іх збожжа, асабліва жыта, і адначасова ўстанавіць нагляд за абавязковым выкананьнем кантрактоўшчыкамі сваіх абавязкаў у вызначаны тэрмін з тым, каб супроць нязда́ўшых у тэрмін прыняць суровыя прымусовыя меры праз 5 дзён па сканчэньні першага тэрміну.

в) Скончыць да I-X 29 г. работу па правядзеньні пляну хлебазагатовак па паасобных паселішчах і адначасова пры гэтым правесьці поўнасьцю ў жыцьцё дырэктыву аб клясавым забясьпячэньні пляну шляхам безадкладнага праяўленьня кулацка - заможнай частцы гаспадарак, цьвёрдых лічбовых заданьняў на продаж лішкаў хлеба, асабліва жыта і пшаніцы, асноўным загатоўшчыкам у канкрэтны кароткі тэрмін. Пры гэтым прыняць меры да таго, каб уся гэта работа праходзіла побач з шырока разгорнутай растлумачальнай агітацыйнай кампаніяй, якая павінна дасканала высьвятліць сялянству клясавы характар хлебазагатовак і ўсю важнасьць поўнага выкананьня пляну і, асабліва, паступленьне хлеба ў вызначаны тэрмін. Трэба разгарнуць работу сярод беднаты.

г) Забясьпечыць нагляд і суровы кантроль за выкананьнем гаспадаркамі вызначаных ім заданьняў па здачы хлеба поўнасьцю ў тэрмін і безадкладнае прыняцьце захадаў супроць тых, хто адхіляецца, ужываючы ўсе пакараньні ў межах прадстаўленых сельсаветам пашыраных праў.

2. Абавязаць НКФ тэрмінова даць заданьні усім акругам па зборы сялянскіх плацяжоў, з вызначэньнем цьвёрдых канкрэтных тэрмінаў і кантрольных лічбаў, а таксама разгарнуць шырокую кампанію па датэрміновай выплаце с.-г. падатку і пашырэньні пазыкі індустрыялізацыі, а таксама па праверцы і ўзмацненьні работы па самаабкладаньні.

3. Даручыць Белсельбанку даць цьвёрдае канкрэтнае заданьне мясцом па зборы запазычанасьці і спагнаньні пратэрмінованых плацяжоў сялянства.

4. Абавязаць Белкоопсаюз і Белсельсаюз узмацніць работу па зборы паявых узносаў ад сялян і аб ходзе спагнаньня інфармаваць ЦК пры чарговым дакладзе.

5. Прапанаваць Акругкомам праверыць безакладна правядзеньне ў жыцьцё дырэктывы аб барацьбе з прыватнымі скупшчыкамі і націску на хлебнага спэкулянта ў горадзе і на вёсцы і аб выніках праверкі паведаміць ЦК праз два тыдні.

6. Прыняць тэрміновыя меры да організацыі хуткай разгрузкі вагонаў, якія прыбываюць з хлебам у БССР і асабліва да мобілізацыі ўсёй складачнай плошчы, якая прыгодна пад хаваньне хлеба за кошт вызваленьня яе з-пад іншых тавараў.

7. Лічыць патрэбным тэрмінова камандыраваць для правядзеньня і ўзмацненьня работы па хлебазагатоўках у Бабруйскую, Гомельскую, Магілеўскую і Аршанскую акругі рад адказных таварышоў.

## Аб становішчы працы па коопэраваньню бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 30-IX—29 г.).*

Заслухаўшы даклад фракцыі Белкоопсаюзу аб коопэраваньні батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, Сакратарыят ЦК КП(б)Б адзначае, што:

1. Узяты напрамак у працы спажывецкай коопэрацыі па коопэраваньню асобных соцыяльных груп вёскі правідловы, тэмп-жа коопэраваньня бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, ня гледзячы на выпаўненьне гадавой кантрольнай лічбы коопэраваньня 50 тыс. бядняцкіх гаспадарак прызнаць недастатковым. (% коопэраваных гаспадарак на 1-VII—29 г. складае 71,8 проц. бядняцкіх і 68 проц. серадняцкіх).

2. Наяўнасьць шэрагу выпадкаў парушэньня клясавае лініі ў справе коопэраваньня беднаты і батрацтва, скарыстаньне значнае часткі фонду на коопэраваньне сераднякоў і некаторай часткі заможных, былых паліцэйскіх і г. д. (Замасточча, Радашковічы, Пухавічы, Койданава с.-т-вамі). Недаацэнка важнасьці найбольш хуткага коопэраваньня аграмаджанага сэктару с. гаспадаркі (калгаснікаў). Нескарыстаньне значнай часткі фонду КБ, слабы абхоп беднаты і батрацтва ў населеных пунктах, якія больш аддеглы ад цэнтру коопэратыва, так і жанчын-батрачак, якія вядуць самастойныя гаспадаркі і недастатковы ўдзел у рабоце па коопэраваньню за лік фондаў сямей беднаты.

3. Ня было дастатковага нагляду, праверкі і кіраўніцтва з боку паасобных мясцовых парторганізацый за працай спажывецкай коопэрацыі ў галіне коопэраваньня беднаты, батрацтва і аграмаджанага сэктару сельгаспадаркі.

Выходзячы з гэтага, Сакратарыят ЦК прапануе фракцыі праўленьня БКС:

1. Узмацніць тэмп коопэраваньня калгаснікаў (членаў камун, арцеляй і таварыстваў) з такім разьлікам, каб у бліжэйшыя тры месяцы забясьпечыць 100% коопэраваньня іх.

2. Лічыць неабходным удзел спажывецкай коопэрацыі ў стварэньні спэцыяльных фондаў па колектывізацыі беднаты, дзеля чаго пачаць ужо з бягучага году адлічэньні ад агульных фондаў коопэраваньня 30 проц. у фонд колектывізацыі.

3. Забясьпечыць больш шпаркі тэмп коопэраваньня беднаты, батрацтва таксама жанчын-батрачак і серадняцкіх груп сялянства з тым, каб да 1-Х—30 г. дасягнуць 100 проц. коопэраваньня беднаты і 90 проц. серадняцтва. Разам з тым узмацніць коопэраваньне другіх сяброў двара з асноўных груп насельніцтва, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўзмацненьне работы па коопэраваньню беднаты нацыянальных меншасьцяў.

4. Шырэй разгарнуць працу па ўцягненьні беднаты і батрацтва ў практычную коопэрацыйную працу наогул і ў прыватнасьці да працы па коопэраваньню, гаспадарчаму абслугоўваньню беднаты, батрацтва і аграмаджанага сэктару с. гаспадаркі.

5. Фракцыі БКС узмацніць нагляд і жывое кіраўніцтва працай нізавой сеткі спажыв. коопэрацыі, дакладна праверыўшы і забясьпечыўшы правядзеньне вытрыманае клясавае лініі ў справе скарыстаньня фонду КП. Усю работу па коопэраваньню ставіць пад больш кантроль груп беднаты, і клясава-вытрыманага батрацка-бядняцкага актыву, усклаўшы поўную адказнасьць на кіраўнікоў С. Т-ваў за правядзеньне чоткае клясавае лініі і на сваечасовае скарыстаньне фондаў коопэраваньня беднаты.

6. Пры разгортваньні і перагляздзе крамна-гандлёвай сеткі ў першую чаргу прадугледзець максымальнае яе набліжэньне да калгасаў, саўгасаў, а таксама тых раёнаў, якія да гэтага часу недастаткова ахоплены.

7. У мэтах лепшага рэгуліраваньня і скарыстаньня фонду коопэраваньньня беднаты дапускаць перадачу частак фондаў у межах акруг з тых раёнаў, дзе коопэравана 100% беднаты ў другія экапамічна слабейшыя раёны, дзе бедната недастаткова ахоплена.

8. Прапанаваць АК узмацніць нагляд і праверку працы С. Т-ваў па коопэраваньню, абслугоўваньню членаў камун, калгасаў, батракоў і беднаты па лініі с. коопэрацыі, завастрыўшы пытаньне аб поўным выпрамленьні клясавае лініі ў практычнай працы с. коопэрацыі.

Фракцыі БКС праз 6 месяцаў далажыць Сакратарыяту ЦК аб выкананьні гэтае дырэктывы.

# У ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАНТРОЛЬНАЙ КАМІСІІ КП(б)Б.

## Аб працы камісій РСІ пры РВК і с-саветах.

*(Рэзалюцыя ЦКК КП(б)Б ад 3-Х—29 г.).*

1. Ня глядзячы на шэраг дырэктыў ЦКК аб важным значэньні камісій РСІ на вёсцы ў барацьбе з бюракратызмам, цяганінай, скажэньнем лініі партыі і савецкай улады, у ажыцьцяўленьні кантролю мас за сваечасовым правядзеньнем важнейшых мерапрыемстваў ураду нізавым сав. апаратам, Прэзыдыум ЦКК адзначае, што Акр. партыйныя і савецкія органы ня прынялі належных мер да арганізацыі і правільнай пастаноўцы працы камісій РСІ. Ня глядзячы на тое, што пастанова ЦВК БССР аб арганізацыі камісій РСІ пры РВК і с/с была выдана яшчэ ў сакавіку 1929 г., да гэтага часу ў многіх РВК (не гаворачы ўжо аб сельсаветах), гэткія не арганізаваны, а ў некаторых хаця і адбылася арганізацыя іх, аднак, прадстаўленыя самім сабе гэтыя камісіі не разгарнулі працы, засталіся на паперы, ня выканалі сваіх правоў і абавязкаў, вызначаных палажэньнем ЦВК і толькі ў нязначнай частцы раёнаў камісіі РСІ прыступілі да працы.

2. Азнаямленьне з дзейнасьцю апошніх нават толькі па першапачатковых іх мерапрыемствах паказвае, што камісіі РСІ ўпаўне апраўдваюць сваё існаваньне, выкрываючы недахопы і злоўжываньні ў нізавым савецкім апараце і дапамагаючы сучаснай чыстцы савецкага апарату.

Але побач з гэтым маюцца адмоўныя моманты і асноўны з іх—адсутнічаньне масавай работы ў камісіях РСІ, абмежаваньне сваёй працы 3—5 работнікамі (ператварэньне масавай арганізацыі ў лішнюю апаратную адзінку) без належнай апоры на грамадзкасьць і прыцягненьне батракоў і беднякоў да барацьбы з бюракратызмам і палепшаньню становішча нізавога савецкага апарату, які вялікі недахоп неабходна рашуча зжываць далейшай працы, дабіваючыся прыцягненьня актыўных прадстаўнікоў беднаты батрацтва і прафсаюзаў у непасрэдную работу камісій, якія павінны стаць арганізатарамі мас на вёсцы навакол працы РСІ.

3. Адсутнічаньне працы па сваечасовай арганізацыі камісіі РСІ ў раёнах можа Прэзыдыумам ЦКК тлумачыцца толькі тым, што з боку АВК і АКК—РСІ і ў асаблівасьці з боку Прэзыдыуму РВК і сельсаветаў ня была зьвернута на гэта належная ўвага, калі яны абмяжоўваюцца ў лепшым выпадку фармальнай пастановай аб арганізацыі камісій без належнай дапамогі апошнім. РК і партячэйкі КП(б)Б досыць часта ня ведаюць пра існаваньне камісій РСІ і не звярочваюць на іх увагі; АКК-РСІ ня толькі не інструктавалі камісій РСІ, але і не правялі арганізацыйнай працы, ня глядзячы на тое, што былі для

гэтага магчымасьці (выезды ў гэты час у раёны па чыстцы сав. апарату, партыі і інш.).

4. Прымаючы пад увагу, што камісіі РСІ зьяўляюцца найбольш поўнай формай уцягненьня працоўнага сялянства ў справу барацьбы з бюракратызмам АКК-РСІ неабходна:

а) Прыняць усе крокі да хуткай арганізацыі камісій РСІ пры РВК, паступова разгортваючы арганізацыю іх пры с/с, пачынаючы з найбольш буйных і адлеглых ад раёнцага цэнтру, правёўшы раней шырокую растлумачальную працу аб дзейнасьці і задачах камісіі на шырокіх масавых сходах;

б) Паставіць пытаньне перад Акругкомамі КП(б)Б адносна дачы апошнімі дырэктыў РК і ячэйкамі КП(б)Б аб большым назіраньні з іх боку за дзейнасьцю камісій РСІ і садзейнічаньні працы іх, асабліва ў сэнсе арганізацыі мас і вясковай грамадзкасьці вакол працы камісій РСІ;

в) Завострыць пытаньне аб працы камісій РСІ на Пленумах АВК і дачы катэгарычных дырэктыў па савецкай лініі (РВК, с/с), каб Прэзыдыумы апошніх на першых парах штодзённа кіравалі і інструктавалі камісіі РСІ (скліканьне нарад с/с камісій РСІ, дача паасобных даручэньняў, заслухоўваньне дакладаў аб дзейнасьці і інш.).

5. Асноўным зьместам працы камісій РСІ трэба лічыць барацьбу з бюракратызмам, цяганінай, а таксама праверку дырэктыў ураду па пытаньням сельскай гаспадаркі (пасеўкампан., аграмінімум і барацьба з парушэньнямі клясавай лініі); разгляд скаргаў прыём якіх павінен быць стала арганізаваным (вывешваньне скрынак, аб'яў, вячэрнія дзяжурствы і інш.) і расьсьледваньне рабселькораўскіх заметак.

Адначасова, як плянавая праца камісій РСІ, павінна практыкавацца абсьледваньне паасобных устаноў і арганізацый, ня столькі агульнай дзейнасьці гэтых устаноў, як галоўным чынам у напрамку абслугоўваньня імі працоўнага сялянства, выкрываючы недахопы пастаноўкі гэтай працы з аднначасовай дапамогай палепшаньню яе.

6. Асноўным мэтадам працы камісій РСІ павінна быць шырокая апора на масы і арганізацыя мас у вёсцы на барацьбу з бюракратызмам і другімі недахопамі нізавога сав. апарату:

а) сапраўднае ўцягненьне ў працу камісій усіх добраахвотнікаў, не абмяжоўваючыся прыцягненьнем паасобных адзінак, пры чым неабходна справу паставіць такім чынам, каб кожны член камісіі, акрамя абсьледваньняў, даручэньняў, быў актыўным барацьбітом з бюракратызмам па сваёй ініцыятыве;

б) апрача дабраахвотнікаў, запісаўшыхся ў камісіі РСІ, трэба шырока прыцягваць рабочых і служачых тых прадпрыемстваў і устаноў, якія абсьледуюцца з абгаварэньнем вынікаў абсьледваньняў на агульных сходах.

7. У прадстаячай чыстцы раённага апарату неабходна, каб камісіі РСІ пры РВК і с/с прымалі актыўны ўдзел, як у падрыхтоўчай працы (зьбіраньне матар'ялаў, абсьледваньне устаноў, праверка пастаноўкі працы і г. д.), так і ў працэсе самой чысткі, дапамагаючы праверачным камісіям і органам РСІ ў гэтай вялікай працы па ачышчэньню сав. апарату ад разлажыўшыхся элемэнтаў.

8. Унесьці дадатак у палажэньне ЦВК аб камісіях РСІ, што „камісіі РСІ пры РВК, сельскіх і местачковых саветах выбіраюць на сваіх Пленумах Бюро ад 3 і больш чалавек, у залежнасьці ад ліку запісаўшыхся членаў".

9. Указаць Менскай і Гомельскай АКК-РСІ (акругі, дзе было праведзена абсьледваньне), што імі да гэтага часу ня была зьвернута належная ўвага на працу камісій РСІ.

10. На падставе абсьледуемага матар'ялу напісаць больш падрабязны інструкцыйны ліст з крытыкай недахопаў працы і прыкладны плян працы раённай і сельскай РСІ.

# У АДДЗЕЛАХ ЦК КП(б)Б.

## Усебеларуская нарада латышоў партпрацаўнікоў.

12-га лістапада ў г. Менску склікаецца Усебеларуская нарада латышоў партпрацаўнікоў.

Парадак дню:

1. Даклад аб рабоце ЦБ Латсэкцыі ЦК УсеКП(б).

2. Даклад аб рабоце Латбюро ЦК КП(б)Б, а) даклады з акруговых латбюро (Полацак, Віцебск, Магілёў).

3. Задачы масавай агітпрапработы сярод латыскага насельніцтва.

4. Работа па каляктывізацыі.

5. Задачы школьнай і палітасьвет. працы.

На нараду запрашаюцца члены Латбюро ЦК, сакратары Латбюро АК, прапагандыстыя, раённыя ўпаўнаважаныя і латработнікі ЛКСМБ.

З месц запрашаюцца 20 асоб па наступнай норме:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Віцебск | Сакратар | Латбюро | 1 | прапаганд. | 1 | райупаўнаважаных | 2 |
| Полацак | „ | „ | 1 | „ | — | „ | 2 |
| Магілеў | „ | „ | 1 | „ | 1 | „ | 2 |
| Менск | „ | „ | 1 | „ | — | „ | 1 |
| Бабруйск | „ | „ | 1 | „ | — | „ | 1 |
| Гомель | „ | „ | 1 | „ | — | „ | — |
| Ворша | „ | „ | 1 | „ | — | „ | 1 |
| Работнікі | ЛКСМБ | | 1 | „ | — | „ | — |
| | | | 8 | | 2 | | 10 |

## Дзьве школы-перасоўкі для латвёсак.

У наступным навучальным годзе арганізуецца дзьве школы-перасоўкі для больш адлеглых латвёсак.

Адна школа-перасоўка на цэнтральным бюджэце будзе працаваць у Магілёўскай і Полацкай акрузе. Другая на мясцовым бюджэце ў Віцебскай акрузе.

Школы ўкамплектаваны прапагандыстымі і прыступілі да працы.

# З АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ПРАКТЫКІ МЕЙСЦ.

## Праверка работы сярод беднаты.

*(Мазырская акруга).*

З мэтаю праверкі выкананьня пастаноў Пленумаў і XV Зьезда УсеКП(б) аб рабоце з вясковай беднатой Пленум Мазырскага АК заслухаў даклад аб выніках рэалізацыі гэтых пастаноў.

Пленум канстатаваў, што пастановы партыі аб рабоце сярод беднаты ў асноўным знайшлі сваё праламленьне ў практычнай рабоце партыйнай арганізацыі ва ўмовах акругі. У выніку маецца значны рост аўтарытэту партыі сярод беднаты і батрацтва, узрост палітычнай і клясавай сьвядомасьці, згуртаваньне беднаты вакол партыі і падтрыманьне яе мерапрыёмстваў праводзімых у вёсцы, што асабліва выявілася пры правядзеньні перавыбараў саветаў, кааперацыі, самаабкладаньня, пасеўкампаніі і г. д. Партыйныя ячэйкі ў сваю чаргу зразумелі, у большасьці сваёй, важнасьць правядзеньня сходаў беднаты і набылі значную практыку ў рабоце з групамі, ахапляючы ўсё больш і больш насельніцкіх пунктаў.

Пры ўзмацненьні работы з беднатой назіраецца ўзмацненьне блёку беднаты з серадняком у зьвязку з чым паменшыўся ўплыў кулацтва і ўзмацніўся наступ на заможныя слаі вёскі.

Пленум адзначыў значны рост груп беднаты. Напр., усяго груп беднаты было на 1/X-28 г.—83, на 1/V-29 г. 129; іх работа палепшылася і некаторыя групы беднаты пачалі больш сыстэматычна праводзіць паседжаньні, разглядаючы практычныя пытаньні вёскі ў выніку чаго ажывілася работа тых органаў, пры якіх групы беднаты працуюць. Побач з гэтым узрасла гаспадарча-арганізацыйная дапамога беднаце. Каапеpавана ў с.-г. таварыствах за лік фондаў кааперываньня беднаты з 1/X-27 г. па 1/IV-1929 г.—3170 бядняцкіх гаспадарак, 443 у вытворчых аб'яднаньнях і з 1/X-27 г. па 1/IV-29 г. 5643 беднякі ў спэцыяльных відах кааперываньня. К апошняму часу ўцягнута ў калгасы 600 бядняцкіх гаспадарак, што складае 65—70% складу калгасаў.

Побач з гэтымі дасягненьнямі Пленум адзначыў шэраг недахопаў і глаўнейшымі з іх зьяўляюцца тое, што вясковыя ячэйкі да гэтага часу яшчэ не прапрацавалі ў дастатковай ступені пастановы партыі па рабоце сярод беднаты, яшчэ ня ўсе ўясьнілі сабе значэньне і важнасьць гэтае работы і мэтады яе правядзеньня.

Як ячэйкі, так і РК недастаткова ўдзялялі ўвагі па ўцягненьню бядняцкіх і батрацкіх мас у штодзенную практычную работу па перабудове вёскі на сацыялістычны лад, а замест работы сходаў груп запаўняюцца, у асноўным, кампанійскімі пытаньнямі.

Хаця праведзены абгляд груп беднаты ў 1928 г. значна завострыў увагу РК і ячэек на работу груп беднаты, аднак, практычныя вынікі зусім нязначныя. Кіраўніцтва групамі беднаты як з боку ячэек, так,

і РК—слабае; кіраўнікі груп не адчуваюць адказнасьці за работу груп. Шэраг груп, ня гледзячы ня тое, што ўжо даўно існуюць, у большасьці сваёй не вядуць практычнае работы; адсутнічаюць пляны і значная колькасьць груп існуе толькі фармальна, правёўшы толькі 1—2 пасяджэньні з агульнымі пытаньнямі. У шэрагу выпадкаў ячэйкі не займаюцца пытаньнем палепшаньня работы груп беднаты, не правяраюць работы іх, не заслухоўваюць дакладаў кіраўнікоў груп на сваіх паседжаньнях, не правяраюць выкананьня сваіх рашэньняў, а прапановы груп беднаты выносяцца на вырашэньне адпаведных органаў не як прапановы груп, а як прапановы кіраўніка ўстановы, што зьмяншае ролю і значэньне груп.

Няма дастатковай яскравасьці ў паседжаньнях груп. Часта, яны праходзяць палузачыненымі, батрацкі і бядняцкі актыў на сходы груп прыцягваюцца недастаткова, а работа груп слаба папулярызавана сярод шырокіх батрацка-бядняцка-серадняцкіх мас і маюцца выпадкі, калі бядняцкія сходы ператвараюцца ў агульна-сялянскія сходы, дзе калі ні калі кулацтва праводзіць рашэньне ў сваіх інтарэсах. Ёсьць моманты правядзеньня зачыненых сходаў, куды не дапушчаецца серадняк, што выклікае нездавальненьне з боку яго. Батрацтва і жанчыны-беднячкі на сходы прыцягваюцца слаба. З боку РК і фракцый акруговых устаноў мала надаецца ўвагі гаспадарчай дапамозе беднаце ў той час, калі гэта дапамога прымае характар сабесаўскай дапамогі і не дае належнага эканамічнага эфэкту, а ў асобных момантах назіраецца скрыўленьне клясавай лініі ў гэтай галіне работы.

Выходзячы з гэтага Пленум АК прапанаваў РК і ячэйкам палепшыць зьмест работы сходаў і груп беднаты ставячы ў цэнтры ўсёй работы груп беднаты пытаньні гаспадарчага і культурнага жыцьця вёскі, правядзеньне сацыялістычнай рэконструкцыі і ўзьняцьце ўраджайнасьці сельскай гаспадаркі, падняцьце індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, шырокае кааперыраваньне іх і ўцягненьне ў калгасы і розныя вытворчыя с.-г. аб'яднаньні беднату.

Пленум прапанаваў РК і ячэйкам правесьці праверку работы сярод беднаты, абгаварыць вынікі праверкі на сходах ячэек КП(б)Б і КСМ, на паседжаньнях і сходах груп і дэталёва распрацаваць пастановы партыі аб рабоце сярод беднаты, праводзячы работу апошніх плянава і сыстэматычна.

Пры правядзеньні работы з беднатой РК і яч. павінны ўлічваць інтарэсы серадняцтва і ні ў якім разе не працівапастаўляць беднату серадняцтву, а замацоўваць блёк бедняка з серадняком.

Пленум даручыў РК і ячэйкам узмацніць і ажывіць работу груп беднаты, шляхам палепшаньня складу кіраўнікоў груп беднаты, ускладаючы на іх большую адказнасьць за праводзімую работу, разглядам канкрэтных пытаньняў на паседжаньнях груп беднаты і вынясеньнем канкрэтных прапаноў, прыцягваючы для гэтае мэты саміх членаў груп. На пасяджэньне груп прыцягваць больш шырокія колы батрацтва і бедняцкага актыву, жанчын беднячак і лепшыя, блізка стаячыя да партыі, серадняцкія элемэнты.

Прымаючы пад увагу малую колькасьць складу некаторых вясковых ячэек Пленум даручыў РК дазваляць у такіх выпадках кіраваць сходамі груп беднаты кандыдатам партыі з дазволу РК.

Прапанована РК, фракцыям АСС, АСБ і АВК заняцца пытаньнем вывучэньня эфэктыўнасьці гаспадарчай дапамогі беднаце, праводзячы гэтую работу плянава і сыстэматычна і заняцца праверкай скарыстаньня гаспадарчай дапамогі беднаце, прыцягваючы да гэтае работы бядняцкі актыў, асабліва групы беднаты.

Даручана РК і фракцыям акруговых устаноў не распыляць сабесаў-

скім парадкам гаспадарчай і арганізацыйнай дапамогі, а накіраваць яе на садзейнічаньне і арганізацыю па ўцягненьню беднаты ў калгасы і розныя с.-г. аб'яднаньні, а таксама павялічыць фонды дапамогі дзецям беднаты з мэтаю большага ахопу ў школах першай і другой ступені, пасіляючы работу па ўцягненьню беднаты і батрацтва ў лікпункты, палітгурткі, хаты-чытальні і г. д.

Прапанована бюро АК і Райкомам зьвярнуць асаблівую ўвагу на работу сярод беднаты нацменшасьцяў, па аказаньню матэрыяльнай і культурнай дапамогі беднаце. РК і ячэйкам мястэчак зьвярнуць ўвагу на работу КСТУ, накіраваўшы іх работу на матэрыяльную і вытворчую дапамогу працоўнай і дэклясіраванай яўрэйскай беднаце, ўцягваючы яе ў кустарныя арцелі, мясцовую і дзяржаўную прамысловасьць, асабліва маладняк, а таксама па лініі землянадзяленьня, арганізацыі яўрэйскіх калгасаў і г. д.

Прызнана неабходным сыстэматычна склікаць раённыя і акруговыя нарады груп беднаты, распрацоўваючы на іх важнейшыя пытаньні гаспадарчага і палітычнага жыцьця вёскі, увязваючы гэтыя пытаньні з канкрэтнымі задачамі работы груп беднаты.

Пленум дaручыў бюро АК распрацаваць пытаньне канцэнтрацыі сродкаў па кааперыраваньню беднаты ў адзін кааперацыйны цэнтр.

## Вопыт колектывізацыі Клімавіцкага раёну трэба замацаваць, як сталы мэтад колектывізацыі.

Калгасны рух у нас на Беларусі, як і па ўсяму Савецкаму Саюзу з кожным днём становіцца ўсё больш і больш магутны і ў сапраўднасьці прымае, а ў шэрагу раёнаў Беларусі ўжо прыняў нябывалы масавы характар.

У вялікай стройцы новай соцыялістычнай вёскі ўдзельнічаюць ужо дзезяткі тысяч асноўных бядняцка-серадняцкіх мас пад непасрэдным кіраўніцтвам партыйных організацый.

Дырэктывы XVI Усесаюзнай партконфэрэнцыі і дырэктывы ЦК КП(б)Б аб разгортваньні масавай колектывізацыі аб'ядноючы цэлыя вёскі, цэлыя сельскія саветы і раёны, знайшлі ўжо практычнае ажыцьцяўленьне ў шэрагу мейсц Рэспублікі. Мы ўжо маем не адзін раён на Беларусі, дзе абагулены соцыялістычны сэктар сельскае гаспадаркі перавышае вызначаныя заданьні па пяцігадоваму пляну, дзе гэтыя заданьні выкананы за адзін год. *З найбольш перадавых раёнаў, ідучых у перадзе ўсіх астатніх, трэба вылучыць Клімавіцкі раён, Магілёўскае акругі, дзе ўжо колектывізавана звыш 18 проц. усёй зямельнай плошчы; Сьмілавіцкі раён, Менскае акругі—каля 15 проц., Лоеўскі раён Гомельскае акругі—13 проц. і шэраг іншых.* Работа па колектывізацыі прымае такі ўжо размах, што колектывізуюцца цэлыя сельскія саветы. *Даманавіцкі сельскі савет Мазырскае акругі, дзе налічваецца 1134 гаспадаркі, усе хутарскія, з плошчай у 11.000 гэктараў, поўнасьцю колектывізаваны. Першы ў БССР колектывізаваны цалком сельскі савет Даманавіцкі.*

### Ад чаго залежаць посьпехі колектывізацыі.

Мы праводзім такую работу і па форме і па зьместу, што нам няма ад каго вучыцца. Такой работы, якая праводзіцца зараз у нашым Савецкім Саюзе па перабудове вёскі на соцыялістычны лад, ня ведае яшчэ гісторыя. Таму, асабліва каштоўнымі зьяўляюцца дзеля нас тыя лепшыя вопыты, мэтады працы, якія выпрацоўваюцца ў практычнай рабоце на мясцох, такія вопыты і мэтады, якія забясьпечваюць найбольш хуткае разгортваньне працы па колектывізацыі, спрыяюць хутчэйшаму гаспадарчаму замацаваньню організуемых калгасаў, мы ўся-

мерна мусім распаўсюджваць, пеplanімаць і перанасіць у працу другіх організацый.

Організацыя буйных калгасаў у нас на Беларусі пачалася з Клімавіцкага раёну на Магілёўшчыне. Па разьмерам організуемых гаспадарак гэты раён пакуль што не праўзойдзен. *Толькі за бягучы год па раёну організавана каля 15 новых гаспадарак, сярод якіх з плошчай 500 гкт, 5 калгасаў, ад 500 да 1000 гк—4 і звыш.—1000—6, у тым ліку калгасы з 4.000 гэктараў, 2000 і 1.500.*

Чым можна тлумачыць такія вынікі працы. Зварачаючыся з Клімавіцкага раёну, дзе мне давялося пазнлёміцца з працай, у Воршы, на станцыі, я сустрэў аднаго Сакратара Райкому, Аршанскае акругі ў гутарцы з каторым ён мне заўважыў, што „ў Клімавіцкім раёне асабліва спрыяючыя ўмовы для колектывізацыі, добрая глеба і г. д., а ў нас пяскі, таму мы ня можам мець такіх посьпехаў". Такія думкі і разважаньні не ў яго аднаго, а ў шмат таварышоў працуючых у вёсцы, якія посьпехі колектывізацыі ставяць у залежнасьці ад якасьці глебы і г. д. Зразумела, што ўмовы ня ўсюды аднолькавыя, там, дзе многа кулацтва працу праводзіць цяжэй. Але дзе кулацтва няма? Ёсьць кулацтва і ў Клімавіцкім раёне і ня мала яго там. *Рашаючым зьяўляюцца ня ўмовы, а праца партыйнае організацыі, правільна зразумець і ажыцьцявіць дырэктыву партыі,—вось што рашаючае, вось што забясьпечыла посьпех колектывізацыі ў Клімавіцкім раёне.*

### Калгасы трэба організоўваць.

З паездкі па раёнам Магілёўшчыны, з тых матэрыялаў, якія маюцца ў Вясковым Аддзеле ЦК відаць, што ў шмат якіх мясцох калгасы не організовываюць, а яны самі „організоўваюцца", часам стыхійна, без належнага кіраўніцтва, без належнага ўплыву і садзейнічаньня з боку партыйных організацый. Можна было-б прывесьці не мала фактаў, *аб тым, што тмат у якіх раёнах кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам далей агульных размоў не пашло, есьць раёны, дзе на працягу году у канкрэтнай форме пытаньне калгаснага будаўніцтва ні разу ні стаяла ні на раённым партыйным сходзе, ні на пленуме РК КП(б)Б.* Зусім другі малюнак, зусім другое становішча мы маем у Клімавіцкім раёне. Вось некалькі фактаў: *праведзена на працягу паўтара года 5 нарад сакратароў ячэек, некалькі нарад партыйнага актыву, 3 разы Пленум РК абгаварваў пытаньне калгаснага будаўніцтва і дзесяць раз—бюро раённага камітэту,* пры чым пытаньне не агульнага характару, а зусім канкрэтныя, чоткія. *У выніку, у Клімавіцкім раёне калгасы ў сапраўднасьці організоўваюцца, а не самі яны організуюцца.*

### Мэтады работы Клімавіцкага РК КП(б)Б.

Клімавіцкі Райком КП(б)Б, правільна зразумеўшы задачу масавай колектывізацыі, стала і сыстэматычна праводзіць курс на аб'яднаньне ў калгасы цэлых вёсак; не чакаючы пакуль прыедуць самі сяляне і папросяць, каб у іх організавалі калгас, Райком вылучае таго ці іншага сябра партыі і даручае паехаць у тую ці іншую вёску і організаваць калгас. Таварыш, атрымаўшы заданьне, накіроўваецца і пачынае праводзіць там працу, організоўвае беспартыйны батрацка-бедняцка-серадняцкі актыў, праводзіць работу сярод беднаты, сярод жанчын і моладзі, і нарэшце, калі глеба ўжо падрыхтавана, ёсьць пэўны сьпіс жадаючых організаваць калгас, склікаецца агульны сход, дзе ставіцца пытаньне аб організацыі калгаса і тут-жа праводзіцца запіс жадаючых. Пасьля таго, як праца праводзіцца папярэдне не адзін дзень, а тыдзень, два, альбо і тры, амаль ня было выпадкаў, каб ня быў організаваны калгас, і трэба заўважыць, што пры такой працы

рэдкія выпадкі „нехацімцаў“, як іх самі сяляне празвалі, нежадаючых ісьці ў калгас. Напрыклад, у такім буйным калгасе, як „Камунар Магілеўшчыны“, які аб‘яднае 9 вёсак „нехацімцаў“ толькі каля 18 гаспадарак.

Сярод Клімавіцкага партыйнага актыву сапраўды праводзіцца соцыялістычнае спаборніцтва на лепшую працу па організацыі калгасаў. Няма бадай ніводнага тавaрыша з партыйнага актыву, які на працягу гэтага году не організаваў-бы і не аформіў па некалькі калгасаў.

Між іншым, ініцыятарам такога мэтаду выездаў дзеля сталай працы зьяўляецца Сакратар Райкому т. Соскін, ён першы паказаў прыклад, як трэба організовываць калгасы, прасядзеўшы таксама каля тыдню у дзьвюх вёсках, з каторых організаван калгас „Ленінскі Шлях“.

Сыстэматычнай упартай працай вёска за вёскай руйнуе межы, расчышчае глебу, стварае ўмовы для сапраўднага ўздыму сельскае гаспадаркі і разьвіцьця вытворчых сіл вёскі праз буйную калгасную гаспадарку.

**Як жывуць новыя калгасы і ў чым карысны мэтад колектывізацыі цэлых вёсак.**

Масавая колектывізацыя апрача іншых мерапрыемстваў і падтрыманьня ад пралетарскае дзяржавы патрабуе вялікіх укладаньняў грашовых сродкаў. Пры чым, калі сродкі ўкладаюцца на ўзмоцненьне сродак вытворчасьці, яны прыносяць зразумела больш хуткі эфэкт у параўнаньні з тымі ўкладаньнямі, якія робяцца ў мёртвы капітал, галоўным чынам у жылыя будынкі.

Пры організацыі калгасу шляхам выдзелу з вёскі зараз-жа патрабуецца крэдыт, на набыцьцё і ўзмацненьне сродак вытворчасьці і на розныя будынкі, галоўным чынам на жылыя, пры чым сумы, укладаемыя ў будынкі складаюць мяйсцамі 60—70% усіх атрымліваемых крэдытаў. Пры колектывізацыі цэлых вёсак пытаньне аб жылых будынках, па крайняй меры на працягу бліжэйшых некалькі год так востра, як пры перасяленьні, не стаіць, а ўсе крэдыты, якія атрымліваюць калгасы, укладаюцца ў сродкі вытворчасьці і гаспадарчыя будынкі. Карысна для калгасу і патрабуецца менш укладаньняў з боку дзяржавы а гэта мае надта і надта вялікую значнасьць.

*З усёй сілай і энэргіяй трэба ўзяцца за колектывізацыю цэлых вёсак. Гэта дасьць найбольш хуткі гаспадарчы эфэкт для калгасьнікаў і для дзяржавы.*

Аб карыснасьці для саміх калгасьнікаў аб‘ядналцца ў калгасы цэлымі вёскамі, можна было-б прывесьці ня мала прыкладаў. Возьмем хаця-б к прыкладу калгас „Ленінскі Шлях“, першы буйны калгас на Беларусі ў 2000 гкт., організаваўшыйся ў красавіку месяцы г. г.

Гаспадарка досыць грунтоўна ўжо замацавалася і за першы год свайго існаваньня дасягнула ня мала гаспадарчых эфэктаў. Яравое поле было апрацована колектыўна, дзякуючы таму, што апрацоўка была зроблена лепш, чымся гэта рабілася пры індывідуальнай гаспадарцы, было ўложана штучнае ўгнаеньне, каторага раней ніхто з сялян гэтых дзьвюх вёсак і ў вочы ня бачыў, ураджай атрымаўся такі, што ні адзін стары дзед і ня помніць, каб калі быў такі ўраджай. Было абагулена жыта, засеянае ў мінулым годзе індывідуальна ў палосках, уборка каторага праводзілася калектыўна. Абагулена жывёла. Для гаспадарчых патрэб, з прычыны адсутнасьці яшчэ гаспадарчых будынкаў, часова скарыстоўваюцца лепшыя пуні і гумны, жывуць усе ў сваіх хацёнках дзякуючы чаму, замест таго каб займацца пераносам хат, яны заняліся пабудовай цагельнага заводу, пабудавалі вапельную печ, рыхтуюць свой будаўнічы матэрыял для будаўніцтва гаспадарчых будынкаў. Выпрацавана ўжо каля 50.000 цэглы, нарыхтавана вапна і г. д.

Гаспадарка завяла ўжо добрых пародзістых сьвіней, сваіх вытвор-

нікаў, шэраг сельска-гаспадарчых машын, праўда, апошніх яшчэ надта мала для такой буйнай гаспадаркі, але эфэкт ужо маецца, калгасьнікі ўжо адчуваюць, што яны мацнеюць, пачынаюць жыць лепш, чымся яны жылі раней. Усё гэта надае ім бадзёрасьці, сілы і ўпэўненасьці ў дасягненьні пастаўленых перад сабой мэт.

**Організуем спаборніцтва паміж раёнамі.**

Мы шмат маем добрых прыкладаў у калгасным будаўніцтве. Шмат паказальных абразцоў працы партыйных організацый і савецкіх органаў. Такія прыклады ёсьць ужо ня толькі ў Клімавіцкім раёне, але Клімавіцкі раён на сёньняшні дзень, ня гледзячы на маючыся недахопы ў працы, а яны ёсьць, усё-ж ідзе ўперадзе іншых раёнаў. Трэба як мага шырэй выкарыстаць вопыт працы і мэтады, якія прымяняюцца ў гэтым раёне. Трэба шырока разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва паміж раёнамі на лепшае правядзеньне працы па колектывізацыі.

Аб недахопах у калгасным будаўніцтве, аб рабоце савецкіх, каапэрацыйных і іншых органаў у другі раз.

С. Міцькоў.

# СТАНОВІШЧА ПАРТРАБОТЫ Ў САЎГАСАХ.

## Пасьля вялікага пералому.

*(Бабруйскі раён).*

За апошні год усе саўгасы Бабруйскага раёну перажылі свайго роду рэвалюцыю. Ня гледзячы на тое, што ў саўгасе Дойнічава была ячэйка і на чале саўгасу стаяў член партыі, усё-ж гаспадарка з году ў год падала, вытворчасьць працы памяншалася. Адбывалася гэта таму, што сэкратаром ячэйкі і старшынёю рабачкому там былі выхадцы з кулацкай сям'і і разам з кіраўніком праводзілі лінію зажыму рабочай ініцыятывы.

Масавая работа адсутнічала. Значная частка рабочых падпала пад уплыў бузацёра, шкодніка, мельніка. Камуністы адчынена нават баяліся ўступіць з ім у спрэчкі.

Пасьля адозвы ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы ў саўгас неаднакраць прыязджаў прадстаўнік райкому і ячэйкі заводу „Камінтэрн" (які шэфствуе над саўгасам) і разварушваў рабочую самакрытыку. Сходы праходзілі бурна, рабочыя паказвалі на многія недахопы кіраўніцтва ў саўгасе, але нічога не памагала, пакуль не забралі адтуль кіраўніка, пакуль не расшыфравалі сакратара ячэйкі і старшыню рабачкома, выключыўшы іх з партыі і зьняўшы з работы. Некалькі чалавек рабочых за расьцягваньне гаспадаркі таксама звольнены.

Цяпер саўгас аздаравіўся. Вытворчасьць расьце. Рабочыя ня лічацца з сьвятамі, абы ўправіцца як сьлед з работаю. Уступілі ў спаборніцтва з суседнім саўгасам, а паміж асобнымі групамі рабочых таксама організоўваецца спаборніцтва. Ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, зьвязаныя з манеўрамі, вясеньняя пасяўная кампанія праведзена ў тэрмін, уборка ўраджая праведзена пасьпешна. Снапы з поля перавезьлі за адзін дзень. Лішкі хлеба чырвоным абозам адвезены ў коопэрацыю. У абоз былі ўцягнуты таксама сяляне з суседніх вёсак з сваім хлебам.

Мінулаю зімою рэгулярна працаваў лікпункт і гурток палітграматы. Пачаўся прыток рабочых у партыю.

Дзьве работніцы высунуты на кооперацыйную працу. Саўгас становіцца перадавым. Калі ў мінулым годзе палавіна рабочых не падпісалася на заём індустрыялізацыі, дык цяпер падпісаліся амаль усе на 100 проц. месячнага заробку. Саўгас аказаў дапамогу зноў арганізаванаму калгасу чыстасортным насеньнем і інвэнтаром. Адчыняецца школа малапісьменных.

У саўгасе Жылічы кіраўніком быў былы афіцэр калчакоўскай арміі. З рабочымі ў яго былі вечныя недарэчнасьці і канфлікты. Сярод рабочых кіраўнік меў сваіх любімчыкаў і ворагаў і натраўляў іх аднаго на другога. Заробчая плата рабочым і сялянам „за падзёную працу“ выплачвалася з вялікай заціжкай. Адносіны да калгасу былі напружаныя. Зімою 1928-29 г. замест зарплаты рабочым пачалі выдаваць яблачнае віно з свайго заводу. Адсюль разьвілася страшэнная п‘янка і хуліганства. Зацікаўленасьць працай зусім упала. Коні пакалечыліся. 25 дзесяцін скошанай насеннай канюшыны згніло ў полі, таму што несваечасова ўбралі. 1500 п. карнеплодаў пагніло ў буртах таму, што няправільна іх захоўвалі. Больш таго, сартавое насеньне раздавалася сялянам, а атрыманае ад іх нізкасортнае насеньне высявалі на полі саўгасу. Адгэтага ўраджаі былі нізкія. Зьмена кіраўніка цягнулася паўгода. Камуністы ў саўгасе п‘янствавалі, сплетнічалі.

Цэнтр ячэйкі быў не ў саўгасе, а пры с.-савеце. Таму кіраўніцтва нутраным жыцьцём саўгасу з боку ячэйкі было зусім слабое.

Нарэшце прыслалі кіраўніка саўгасу члена партыі. Жыцьцё крута зьмянілася к лепшаму. Раздача віна спынілася, кончылася і п‘янка і хуліганства. Зьявілася цікавасьць да падняцьця гаспадаркі. У сувязі з чысткаю партыі несправімых выключылі, а другім дадзены парт. спагнаньні. Хлопцы падцягнуліся. Кіраўніцтва ячэйкай перайшло ў рукі саўгаскіх рабочых, таму наблізілася да жыцьця саўгас. У г. г. вялізарная ўвага была зьвернута на пасяўную кампанію. Ураджай саўгасу рэзка вылучаецца ў лепшы бок у параўнаньні з сялянскім. Пры земляўпарадкаваньні суседняй вёскі арганізаваны калгас. Ня гледзячы на шалёнае супраціўленьне кулацтва будаўніцтву калгасу і імкненьне зусім сарваць земляўпарадкаваньне, дзякуючы дапамозе ячэйкі кулацкія замыслы праваліліся. Саўгас сваім трактарам дапамог заараць палі калгасу і даў яму чыстасортнага насеньня. Цяпер сяляне гавораць, вазьмеце ўсіх нас у саўгас з усёй нашай зямлёй і маёмасьцю, таму што рабочым саўгасу лепш жывецца як нам.

Вялікім недахопам работы ячэйкі зьяўляецца тое, што яна не скарыстала пералому ў настроях рабочых да ўцягненьня актыву ў партыю. Актыў ёсьць і рыхтуецца ўліцца ў нашыя шэрагі.

Яшчэ горш было становішча з маленькім саўгасам Кісялевічы. Там кіраваў гаспадаркай нейкі барын па прозьвішчу Цэханскі. Ён ня толькі не паляпшаў гаспадаркі, а проста раскрадаў і падбухторваў на гэтае астатніх рабочых. Але перадавая частка рабочых праз свой саюз РЗС падняла пытаньне і дабілася зьмены кіраўніка. І сюды прыслалі камуніста.

Цяжка было яму наладзіць разваленую гаспадарку. Частка рабочых-любімчыкаў Цэханскага, старалася падкузьміць вылучэнца. Коняй не ў ва што было запрагчы. Зарплату выплаціць было нечым. Справа дайшла да таго, што прыйшлося прадаць барскі шарабан і на здабытыя грошы купіць збрую для таго, каб рабочых на зіму адправіць на заработкі па перавозцы дроў для Лесбелу. Цяжкаю працаю ўдалося выратаваць гаспадарку, якую Цэханскі дабіваўся падзяліць паміж рабочымі на індывідальныя гаспадаркі. Цяпер саўгас мае аўтарытэт ня толькі сярод рабочых, якіх прышлося асьвяжыць, уліўшы сьвежых батракоў, але і сярод сялян, якія цяпер усе важнейшыя грамадзкія

справы хочуць разьвязваць толькі па савеце кіраўніка саўгасу. Чатыры рабочыя ўступілі ў партыю, арганізавалася ячэйка.

У саўгасе Дурынічах раней усіх адбылася „рэвалюцыя“ пасьля доўгай барацьбы мясцовых грамадзкіх арганізацый удалося нарэшце зьняць кіраўніка Лятоута, які быў яшчэ горшы папярэдніх. Гаспадарка ў 1928-29 годзе пачала наладжвацца, цяпер яна адыгрывае значную ролю ў пад‘ёме і перабудове сялянскай гаспадаркі: саўгас здавальнае сялян палепшаным насеньнем і быдлам, робіць ачыстку насеньня і злучку з пародзістымі быкамі і жарабцом. Зноў арганізаванаму калгасу трактарам саўгасу памаглі ўзараць поля. Інакш-бы калгасу прышлося вельмі цяжка, таму што арцельшчыкі сабраліся ўсе без‘інвэнтарныя.

Партработа яўна адстае ад разьвіцьця гаспадаркі ў саўгасе. Да гэтага часу на 50 чал. рабочых і служачых там толькі адзін камуністы і той з ліку прысланых. З старшынёю рабачкому там зусім не вязе. Вясною 1929 г. за адным нагля-далася п‘янства і растрата. Прышлося датэрмінова перавыбраць. Новы ленаваўся працаваць, зноў трэба было меняць. Пры такіх умовах, з боку рабочых не праяўляецца патрэбнай актыўнасьці, цяга ў партыю адсутнічае.

Трэба ўдарыць па рабачкому і дабіцца рашучага пералому ў рабоце. Наколькі там дрэнна з грамадзкай працай відно хаця-бы з такога прыкладу: рабочыя ў 1928-29 г. падпісаліся на заем індустрыялізацыі. Але адміністрацыя не паклапацілася зрабіць адлічэньне ад зарплаты і адлікі не зданы сваечасова, падпіска зышла на нішто. Рабачком у час належных мер не прыняў.

Цяпер зусім відавочна, які вялікі пералом у сваім жыцьці перажылі нашы саўгасы. Яны толькі зараз пачынаюць дапамагаць дзяржаве павышанай таварнасьцю сельскагаспадарчага прадукту і служыць узорам перабудовы сялянскай гаспадаркі на соц. лад. Вось таму патрабуецца ўсямернае ўзмацненьня саўгасаў і пасіленьня іх уплыву на сялянства, з мэтаю падштурхваньня іх на калектывізацыю свае індывідуальнай гаспадаркі.

Сухараў.

## Палепшыць арганізацыю работы з батрацтвам і беднатой.

*(Віцебскі раён).*

У склад Віцебскай раённай партыйнай арганізацыі ўваходзяць чатыры саўгаскія ячэйкі і адна ячэйка калгаская. Адзначаныя ячэйкі адрозьніваюцца тым, што яны налічваюць у сваіх шэрагах толькі 13 таварышоў з асноўнага кадру саўгаскіх рабочых і служачых, а таксама і калгаснікаў. Астатнія члены ячэйкі зьяўляюцца прымацаванымі. З гэтых 13 таварышоў 8 саўгаскіх рабочых, 3 кіраўнікі саўгасамі і 2 калгасьнікі. Гэтыя ячэйкі яшчэ кіруюць і жыцьцём с.-саветаў, на тэрыторыі якіх яны знаходзяцца.

Партработа ў саўгасах і калгасах вядзецца слаба. Кампаніі, якія намі праводзяцца на вёсцы, с.-гаспадарчыя, палітычныя, адрываюць і без таго слабыя сілы саўгаскіх ячэяк на агульна-савецкую работу. Нязначная партпраслойка ў саўгасах, і амаль поўнае адсутнічаньне гэтакай у калгасах, а таксама і няўменьне саўгаскіх і калгаскіх ячэек заняцца пытаньнямі жыцьця саўгасу і калгасу прыводзяць да гэтага.

Нездавальняюча пастаўлена кіраўніцтва экономікай саўгасаў, дрэнна ўцягваецца с.-гасп. рабочыя і калгасьнікі ў партыю.

Толькі адна ячэйка саўгасу „Мазалова“ сумела паставіць больш-менш здавальняюча кіраўніцтва гас-

падарчай і палітычнай работай у саўгасе. Па ініцыятыве ячэйкі зьменян кіраўнік саўгасам, які не сумеў наладзіць працоўную дысцыпліну, разьвязваюцца розныя вытворчыя пытаньні, палепшаны быт рабочых (адрамантаваны рабочыя кватэры, наладжана задавальненьне рабочых прадуктамі і інш.).

Слабым месцам работы ячэйкі зьяўляецца незначны прыток рабочых у партыю.

Аб калгаскай ячэйцы „Новы Шлях" судзіць пакуль што цяжка, бо гэтая ячэйка толькі на днях з'арганізавана і яшчэ не сумела ў сваей рабоце праявіць сябе.

Работа ячэек з батрацтвам праводзіцца шляхам кіраўніцтва дзейнасьці сельбатрачкомаў. Неабходна прызнаць, што гэтая галіна работы ячэек пастаўлена далёка недастаткова. У нас няма моцнага батрацкага актыву, батракі ў арганізацыі налічваюцца адзінкамі.

Работа з беднатою па ахвату і па якасьці праўда стаіць вышэй работы з батракамі, але ўсё-ж і тут мы ў некаторых месцох не дабіліся сыстэмы ў рабоце.

У нас праводзіцца шмат сходаў беднаты, на якіх згуртоўваецца навакол партыі бядняцка-серадняцкі актыў.

А вось з работай груп беднаты справа абстаіць куды горш. Мы не дабіліся сыстэматычнай работы груп беднаты. Амаль адсутнічаюць групы пры коопэрацыі. Яны ў нашай практыцы неяк больш прывіліся ў с.саветах і СК Узаемадапамогі. У мясцох, дзе групы беднаты працуюць добра, мы маем вялікія зрухі па многіх момантах. Напрыклад, арганізацыя чырвоных абозаў, заём індустрыялізацыі і інш.

Неабходна налегчы на лепшую арганізацыю работы з батрацтвам і беднатою.

**А. Эльман.**

# У ПАРТЫЙНЫХ КАМІТЭТАХ.

## Аб ходзе сацыялістычнага спаборніцтва на вёсцы.

### Віцебскі АК.

Віцебскі АК КП(б)Б разглядзеў пытаньне аб ходзе сацыялістычнага спаборніцтва ў сельскай гаспадарцы. АК констатуе, што, ня гледзячы на ўсё вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне сацыялістычнага спаборніцтва ў сельскай гаспадарцы, зьяўляючагася аднэй з лепшых форм масавага ўцягненьня ў практычную працу бядняцка-серадняцкіх мас—гэта важнасьць да апошняга часу яшчэ не ацэнена асобнымі арганізацыямі.

Галоўным недахопам у рабоце па сацыялістычнаму спаборніцтву АК лічыць недастатковае ўцягненьне ў сац. спаборніцтва калгасаў і саўгасаў, якія ня толькі не зьяўляюцца ініцыятарамі ў разгортваньні сац. спаборніцтва, але большасьць з іх у гэтым напрамку ніякай работы не вядуць. Побач з гэтым шэраг каапэрацыйных аб'яднаньняў яшчэ да гэтага часу ня ўступілі ў сац. спаборніцтва.

Разгортваньне сац. спаборніцтва па лініі КСТУ. шэфствуючых гарадзкіх прадпрыемстваў з падшэфнымі с-саветамі і раёнамі, а таксама спаборніцтва паміж с-саветамі ў пытаньні савецкага і культурнага будаўніцтва вёскі праводзіцца недастаткова. Там, дзе дагавары ўжо заключаны, ніхто іх выкананьне не правярае і маса зусім не інфармуецца, як гэтыя дагавары выконваюцца.

Як недахоп АК таксама адзначыў, што заключэньне дагавароў сац. спаборніцтва ў большасьці сваёй праводзяцца габінэтным спосабам, замест арганізацыі вакол гэтага пытаньня ініцыятывы і самадзейнасьці шырокіх рабочых мас, чым яўна скажаецца сэнс сац. спаборніцтва.

Акругком прапанаваў усім Райкомам і фракцыям каапэрацыйных, профсаюзных, савецкіх, грамадзкіх і іншых арганізацый у бліжэйшы час дабіцца рашучага пералому ў справе сацыялістычнага спаборніцтва, ахапляючы ім усе галіны сельскай гаспадаркі і ўсе віды эканамічнага, культурнага і савецкага будаўніцтва, перанясеньне гэтае справы на абмеркаваньне шырокіх працоўных мас вёскі, асабліва бядняцка-серадняцкага сялянства.

Адначасова даручана РК, ячэйкам і фракцыям адпаведных устаноў, якія вядуць сац. спаборніцтва, устанавіць сыстэматычную праверку выкананьня дагавароў, інфармуючы аб гэтым шырокія рабочыя і бядняцка-серадняцкія масы. У больш буйных калгасах і саўгасах АК прызнаў неабходным стварыць ударныя брыгады.

Прапанована АК КСМ у месячны тэрмін праверыць удзел комсамольскіх арганізацый у сацыялістычным спаборніцтве на вёсцы, прыняўшы меры да поўнага ўцягненьня ў гэтую справу ўсіх комсамольцаў, батрацкае і бядняцка-серадняцкае моладзі, а газэце „Віцебскі Пралетары" даручана больш сыстэматычна і паўней асьвятляць на старонках газэты як станоўчыя, так і адмоўныя бакі ходу сац. спаборніцтва на вёсцы.

## Аб узмацненьні працы профсаюзаў на вёсцы.

**Віцебскі АК.**

Віцебскі Акругком КП(б)Б у пачатку кастрычніка м-ца разгледзеў пытаньне аб становішчы працы профсаюзаў на вёсцы. АК адзначыў значны зрух у ажыўленьні працы прафсаюзаў праз пасылку рабочых брыгад для правядзеньня галоўнейшых кампаній на вёсцы (перавыбары саветаў, пасеўныя кампаніі і інш.).

Аднак, ня гледзячы на гэта АК канстатаваў слабае выкананьне шэрагу дырэктыў партыі і VIII-га зьезду профсаюзаў аб сацыялістычнай перабудове вёскі. Профсаюзы яшчэ недастаткова рашуча змагаюцца за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі па калектывізацыі і коопэраваньню вёскі.

Выходзячы з гэтага АК прыняў шэраг практычных прапаноў, якія зводзяцца да наступнага: фракцыям профарганізацый прапанова абгаварыць пытаньне аб чарговых задачах партыі на вёсцы, на сходах рабочых, профднёх і гуртках.

На прадпрыёмствах, якія знаходзяцца ў сельскіх мясцовасьцях, прапанована перабудаваць працу профарганізацый так, каб яна стала асяродкам палітычнага і культурнага ўплыву на акаляючыя вёскі, групуючы батрацтва, беднату і серадняцкія масы вёскі навакол правядзеньня лініі партыі. Для матэр'яльнага забясьпечаньня гэтай працы фракцыі АПС прапанована павысіць выдаткі на культмасавую працу ў сельскіх мясцовасьцях.

З мэтай узмацненьня выхаваўчай работы сярод сэзонных рабочых фракцыі АПС разам з Акрпалітасьветы даручана організаваць сетку „чырвоных куткоў" у тых мясцовасьцях, дзе найбольш жыве сэзонных рабочых.

Акрамя гэтага, АК прапанаваў павесьці больш шырокую працу па ўцягненьню рабочых і служачых у таварыства па садзейнічаньню калектывізацыі вёсцы. Профсаюзам Працасьветы і Мэталістых рэкамэндавана ўзяць шэфства над саюзам сельска-гаспадарчых і лясных рабочых. Таксама даручана ўсім фракцыям саюзаў узмацніць дапамогу саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых у справе падрыхтоўкі батрацтва для вылучэньня ў савецкія, коопэрацыйныя і профсаюзныя органы.

Адзначаючы добрыя вынікі працы пасылаемых рабочых брыгад на вёску, Акругком прапанаваў увесьці гэты мэтад у сыстэму ўсей працы профсаюзаў на вёсцы, асабліва па дапамозе ў ажыцьцяўленьні культурных і агрыкультурных мерапрыёмстваў партыі, папулярызуючы вынікі гэтай працы шляхам справаздач на сходах рабочых і служачых.

У сувязі з рэорганізацыяй акругі ў вопытна-паказальную АК даручыў фракцыям профсаюзаў больш вывучыць і сыстэматызаваць добры вопыт працы ў разгортваньні ўсіх відаў працы саюзаў на вёсцы, для перадачы гэтага вопыту ў астатнія акругі і раёны Беларусі.

Уся гэта праца павінна праводзіцца па мэтаду масавага разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на праверку выкананьня заключаных дагавароў.

## Работа сярод с.-г. рабочых і батрацтва.

**Полацкі АК.**

Полацкі саюз с-г рабочых павялічыўся на працягу году на 550 чал. (на 1/I-28 г.—595 ч., на 1/I-29 г.—1150 ч.).

Організованыя дадаткова 17 сельрабачкомаў далі магчымасьць палепшыць, прыблізіць абслугоўваньне саюзнай масы. Некаторы рост палітычнай сьвядомасьці і актыўнасьці батрацтва пашырыў удзел апошніх у с/с і іншых організацыях (абрана ў с/с, РВК і АВК 317 чал.), а організацыя ў двух саўгасах дзіцячых пляцовак і ў адным дзіцячых ясьляў палепшыла некалькі эканамічна-бытавыя ўмовы часткі батрацтва. За апошні год палепшылася эканамічна-бытавая абарона батракоў (на 1/I-28 г. заключана кал. умоў 2293, а на 1/I-29 г.—4537); заробчая плата павялічылася на 20% у сярэднім.

Аднак АК адзначае яшчэ недастатковы ахоп батрацтва саюзным членствам, слабое ўцягненьне актыву ў саюзную работу, наліччa момантаў парушэньня профдэмократыі, недастатковая пастаноўка культасьветнай работы, выпадкі парушэньня кодэксу аб працы і слабая праверка выкананьня працумоў.

АК прапанаваў адпаведным організацыям ў бліжэйшы тэрмін, праверыць практычнае правядзеньне ў жыцьцё пастановы ЦК КП(б)Б ад 4/III-29 г. аб рабоце сярод с/г рабочых. Для поўнай рэалізацыі пастановы прапанавана распрацаваць адпаведныя мерапрыемствы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на палепшаньне эканамічна-бытавога становішча батрацтва.

Для падрыхтоўкі вылучэнцаў з батрацтва, АК прапанаваў організаваць спэцыяльныя нарады, гурткі, курсы, праводзячы сталы вучот і сыстэматычную работу з вылучэнцамі. Каб канчаткова ліквідаваць няпісьменнасьць сярод батрацтва, АК прапанаваў фракцыі Акрпраўленьня распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы, а Вясковаму Аддзелу АК праз 3 месяцы праверыць выкананьне дырэктыў.

## Курсы сакратароў яч. калгасаў і саўгасаў.

**Бабруйскі АК.**

Для ўзмацненьня работы калгасных і саўгасных ячэек КП(б)Б Бабруйскі АК пастанавіў склікаць курсы сакратароў калгасных і саўгасных партячэек усяго на 36 чалавек. Курсы прыступяць да працы с 15 кастрычніка.

## Пастаноўка партыйнай вучобы.

**Менскі АК.**

Грунтоўнымі недахопамі ў пастаноўцы партасьветы, як гэта выявіў Менскі АК, зьяўлялася: недастатковае ўясьненьне сутнасьці добраахвотнасьці вучобы і яе форм; няўвязка камплектаваньня сеткі партвучобы з камплектаваньнем сеткі рабочай асьветы і мэханічнае камплектаваньне спрыяла адсеву слухачоў, недастатковая ўвага пытаньням партасьветы з боку ячэек і гэтак сама РК, таксама ня зусім уважліва падбіраўся кадр прапагандыстых (слаба падрыхтаваных асабліва ў сэнсе мэтадычным), асабліва мала ўвагі зварочвалася самаадукацыі.

Менскі АК даў шэраг новых дырэктыў па разгортваньню партвучобы ў прадстаячым вучэбным годзе.

У адносінах пабудаваньня нізавой сеткі партасьветы вырашана пакінуць у асноўным сыстэму мінулага году і між іншым унесены наступныя зьмены:

Каб паўней ахапіць зноў уступаючых у партыю, камплектаваньне і організацыю новых груп праводзіць на працягу ўсяго году, а таксама пашырыць колькасьць АПШ на прадпрыемствах.

Таксама прадугледжана прыстасаваньне работы і арганізацыі школ да ўмоў зьменнасьці, непрарыўнай нядзелі і г. д.

Для лепшага абслугоўваньня нацменшасьцяй вырашана арганізаваць нацгрупы як у райшколах, гэтак і ў школах на прадпрыемствах і організацыю нацыянальных школперасовак у вясковых раёнах.

Вырашана ў гэтым годзе абавязкова перавесьці ўсю партасьвету на беларускую мову. Раўналежна с разгортваньнем работы школ, вызначана разгарнуць работу агітпропкалектываў і гурткоў групавых агітатараў.

Акрамя таго, у мэтах узьняцьця політычнага ўзроўню беспартыйнага актыву і падрыхтоўкі яго да ўступленьня ў партыю, рашано на больш буйных прадпрыемствах організаваць гурткі па вывучэньню асноўных пытаньняў статуту, праграмы партыі і рашэньняў зьездаў, конфэрэнцый і т. д.

Паколькі вопыт організацыі груп ВСПШ непасрэдна на прадпрыемствах поўнасьцю сябе апраўдаў, рашано організацыю іх пашырыць з такім разьлікам, каб ахапіць усе больш буйныя прадпрыемствы ў гарадох.

У адносінах організацыі партасьветы ў вёсцы, рашано ў кожным раёне організаваць раённую АПШ, а пры ячэйках організаваць групы АПШ, таксама групы АПШ будуць організаваны ў саўгасах і калгасах. Таксама вызначана організаваць ва ўсіх раёнах ВСПШ з двухгадовым курсам.

У адносінах вучобы актыву застаюцца— нядзельны Камвуз, гурткі па падвышэньню тэорытычнага ўзроўню, вячэрні і завочны Камвуз, а таксама організацыя пэрыядычных лекцый, дыскусій і г. д.

Акрамя таго, вызначана організаваць завочнае навучаньне для нізавога партыйнага актыву, шляхам організацыі груп сакратароў, апоргаў, жаноргаў і г. д.

Для дасканальнага вывучэньня пастаноў XVI партканфэрэнцыі вызначана організаваць гурткі па вывучэньню 5-цігадовага пляну народнае гаспадаркі і асобных галін гэтага пляну.

Вызначана таксама організаваць у вёсцы гурткі аграграматы і калектывізацыі і ў гарадох—па рацыяналізацыі вытворчасьці.

У адносінах мэтодыкі прызнана між іншым усямерна выкарыстоўваць у занятках мясцовы матэрыял, адводзячы для гэтага ня менш адной трэцяй часткі ўсіх заняткаў.

Асаблівую ўвагу ячэек АК завастрыў на ўцягненьні ў партасьвету беспартыйных рабочых і батракоў.

З іншых мерапрыемстваў трэба адзначыць рашэньне аб пераглядзе складу прапагандыстых, аслабаненьня прапагандыстых ад іншых нагрузак, організацыю ў шэрагу раёнаў АПА-Габінэтаў.

Нарэшце АК знайшоў неабходным разгарнуць практыку спаборніцтва па партасьвеце, на ахоп партыйнай і рабочай асьветай як партыйцаў, гэтак і беспартыйных, на наведваньне і якасьць работы школ.

*Прылажэньне табліцы.*

**Колькасны склад КП(б)Б на 1 ліпеня 1929 г.**

| НАЗВА АРГАНІЗАЦЫІ | Усяго ячэек | Кандыдацкіх груп. | У іх састаяла: Членов КП(б)Б | Кандыдатаў КП(б)Б | Усяго камуністых | У тым ліку жанчын: Абсал. | у % | % Кандыдатаў у арганізацыі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Па ўсёй КП(б)Б | 1523 | 61 | 26102 | 9172 | 35274 | 4270 | 12,1 | 26,0 |
| Менская арг. | 305 | 11 | 7082 | 2291 | 9373 | 1203 | 12,8 | 23,3 |
| Гомельская " | 208 | 11 | 5053 | 1523 | 6576 | 815 | 12,4 | 23,1 |
| Віцебская " | 172 | 4 | 3670 | 1075 | 4745 | 721 | 15,2 | 22,7 |
| Бабруйская " | 206 | 3 | 3061 | 1048 | 4109 | 406 | 9,9 | 25,5 |
| Магілеўская " | 210 | 6 | 2470 | 881 | 3351 | 384 | 11,4 | 26,3 |
| Аршанская " | 164 | 7 | 2013 | 904 | 2917 | 344 | 11,8 | 30,9 |
| Полацкая " | 146 | 8 | 1340 | 809 | 2149 | 197 | 9,1 | 32,5 |
| Мазырская " | 112 | 11 | 1413 | 641 | 2054 | 200 | 9,7 | 30,2 |

**Склад камуністых (членаў і кандыдатаў) па сацыяльнаму становішчу на 1 ліпеня 1929 г.**

| НАЗВА АРГАНІЗАЦЫІ | Усяго членаў і кандыдатаў КП(б)Б | З іх па сацыяльнаму складу: У абсал. лічбах: Рабочыя | Сяляне | Служачыя | Іншыя | У %: Рабочыя | Сяляне | Служачыя | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Па ўсёй КП(б)Б | 35274 | 21773 | 7963 | 5263 | 275 | 61,7 | 22,6 | 14,9 | 0,8 |
| Па Менскай арган. | 9373 | 5801 | 1805 | 1713 | 54 | 61,9 | 19,3 | 18,2 | 0,6 |
| " Гомельскай " | 6576 | 4848 | 932 | 766 | 30 | 73,7 | 14,1 | 11,7 | 0,5 |
| " Віцебскай " | 4745 | 3212 | 809 | 689 | 35 | 67,7 | 15,0 | 14,5 | 0,8 |
| " Бабруйскай " | 4109 | 2474 | 994 | 593 | 48 | 60,2 | 24,2 | 14,4 | 1,2 |
| " Магілеўскай " | 3351 | 1676 | 1182 | 464 | 29 | 50,0 | 35,3 | 13,8 | 0,9 |
| " Аршанскай " | 2917 | 1516 | 987 | 381 | 33 | 52,0 | 33,8 | 13,1 | 1,1 |
| " Полацкай " | 2149 | 1052 | 658 | 422 | 17 | 48,9 | 30,6 | 19,6 | 0,9 |
| " Мазырскай " | 2054 | 1194 | 596 | 235 | 29 | 58,1 | 29,0 | 11,5 | 1,4 |

Рэдактар: *Рэдкалегія.*

Друкарня БДВ. Зак. № 3558. У ліку 2100 экз. Галоўлітбел № 64.